ISSN 0320-7579

№ 3/2016(1054)

# Бярозка


станоўчыя эмоцыі

Малюнак Алесі Галоты

ЭКСКУРСІЯ
ДАГІСТАРЫЧНАЯ СІКСЦІНСКАЯ КАПЭЛА

## ЯК НЕ «ПЫКАЦЬ» І НЕ «МЫКАЦЬ» НА ЎРОКУ

і ведаць, што створана чортам з пяску

# №3

Бел. літ.

## ЗАГАДКА «НОВАЙ ЗЯМЛІ»

# Адзін неверагодны экспанат

***Музейны пакой «Быт сялянскага памежжа» прадстаўляе***



Здаецца, рэч як рэч, нічога асаблівага. Такіх тут, увогуле, шмат — не ўсе і заўважыш. Як бачыце, зробленая са шкла, невялікая, круглая, на трох ножках. Нібыта і дно ёсць, але ўвагнута ўнутр. А пасярэдзіне дзірка. Мо памылка майстра, а мо так і трэба? Табе цікава, для чаго служыла гэтая рэч, якое ў яе прызначэнне? Ёсць невялікія падказкі.

Тая істота, для якой яна прызначана, паводле беларускай міфалогіі створана чортам з пяску. У адным павер'і гаворыцца, што яна ператвараецца ў ведзьму, якая адбірае малако ў чужых кароў. А ў казцы — што ў кош, запрэжаны шасцю камарамі, да яе па чарзе сядаюць цвыркун, мышка, жаба і заяц.

На Палессі людзі лічылі, што калі гэтых істот многа, будзе добры ўраджай агуркоў і іншай гародніны. Часам называюць іх драмухамі і гаварухамі. А калі гавораць пра псіхічныя якасці чалавека, то прыпісваюць яму існаванне гэтых істот у галаве і ў носе. Часам чалавек бывае такі добры, што нават яе не пакрыўдзіць!

Восенню яны злыя, і тады іх параўноўваюць з дзеўкамі-векавухамі. А пра нецвярозага гавораць, што ён пад ёю!

Дык здагадаліся ўжо, пра што гаворка? Так-так, гэта муха!

А якая сувязь паміж мухай і гэтым экспанатам?

У яго налівалі мёд, калі мух станавілася шмат. А вядома, што муха — вялікая ласуха і вельмі хочацца пачаставацца ёй салодкім! Вось і залазіць яна ўнутр, а вылезці не можа. Так нашы продкі і змагаліся з гэтымі дакучлівымі істотамі! А назва ў экспаната простая — мухалоўка.

***Алена Касцюшка,***
***кіраўнік краязнаўчага гуртка «Нашчадкі»***

*Дзе гэта можна ўбачыць: Сапоцкінская СШ, Гродзенскі раён.*

Парады настаўніка настаўнікам

# Глядзім кіно, чытаем літаратуру, адказваем на ўроку на «дзясятку»



*Павел Ушкевіч*
*настаўнік беларускай мовы і літаратуры СШ № 12, Гродна*

На жаль, змаганне за літаратурнае чытанне пакуль прайгранае. Вучні масава не чытаюць — сакрэтам гэта даўно ўжо не з'яўляецца. Натуральна, у свеце кінагерояў яны арыентуюцца значна лепш, чым у свеце літаратурных герояў. Што ў такім выпадку рабіць настаўнікам літаратуры? Думаецца, карысным будзе пэўным чынам з'яднаць, пераплесці кіно з літаратурай. Як лепш гэта зрабіць?

Давайце разгледзім адзін прыклад такога ўзаемадзеяння. У 6 класе праграмай беларускай літаратуры прадугледжана вывучэнне раздзела «Свет загадак і цудаў». Размова ідзе пра міфы, багоў, міфічных істот (духаў). Цікавы раздзел можна разгледзець і з іншых пазіцый, з іншага боку.

Справа ў тым, што кінематограф апошнім часам літаральна перанасычаны кінанавінкамі пра паходжанне тых ці іншых багоў. Канешне, сённяшні школьнік не застаецца ўбаку ад сучасных прэм'ер. Запытайцеся, напрыклад, у шасцікласнікаў, ці глядзелі яны такія фільмы, як «Мсціўцы», «Геракл», «Ной», «Персі Джэксан», «Тор», «Гнеў Тытанаў», «Вайна багоў», «Беавульф», «Троя». Большасць з пералічаным спісам знаёмая. Таму школьнік значна прасцей сарыентуецца ў новым матэрыяле, калі ўрок пачнецца з правядзення пэўных паралеляў з кіно.

Пра міфы на аснове фільмаў вучні лепш за настаўніка змогуць расказаць на ўроку. У кожнай з пералічаных стужак ёсць прыклад незвычайных людзей — асілкаў, пра якіх кожны ў класе зможа распавядаць дзясяткамі хвілін. Аповед пра славянскіх багоў можна дапаўняць дадатковай інфармацыяй пра грэчаскіх алімпійцаў альбо дэманстрацыяй магчымасцяў супергерояў стужкі «Мсціўцы».

Кожнае кіно ў досыць захапляльнай форме паказвае змаганне станоўчых герояў з адмоўнымі. Гэтаксама і міфы распавядаюць пра спрадвечную барацьбу светлых і цёмных сіл за ўладарства над Сусветам. Калі прааналізаваць кінастужку, то ў кожнай можна знайсці так званую «вераб'іную» («рабінавую») ноч, калі ўсе добрыя багі і духі яднаюцца і даюць смяротны бой сілам цемры.

У якасці дамашняга задання можна прапанаваць параўнаць герояў фільмаў са славянскімі багамі. Альбо знайсці агульныя і адрозныя рысы сярод міфічных герояў славян і незвычайных духаў, якімі перанасычаны сучасныя кінапрэм'еры.

Такая форма ўрока, здаецца, павінна зацікавіць сучасную досыць прасунутую моладзь. Магчыма, пры праглядзе наступнага фільма ў вучняў будзе ўзнікаць асацыяцыя ўжо менавіта з праграмай па беларускай літаратуры.



Яна Мусвідас

# Праца ў мары

Дэніэлу Рэдкліфу было 10, калі ён абумовіў свой лёс, абраўшы кар'еру. Алану Рыкману было 32, калі ён вырашыў, што не хоча быць дызайнерам і пачаў працаваць на тэатральнай сцэне. «Шляхі Гасподнія нявызнаныя», — паўтараюць нам з дзяцінства. Я заўсёды верыла ў гэтую мудрасць, але яна ніколі не перашкаджала мне будаваць планы на далёкую будучыню. Ужо ў шостым класе я ведала, што пасля дзявятага паступлю ў ліцэй БДУ, а вышэйшую адукацыю буду атрымліваць па спецыяльнасці «журналістыка». З тых часоў усё ішло па плане, акрамя аднаго: я была перакананая, што жыццё можна распісаць на пяцьдзясят гадоў наперад, а цяпер усвядоміла, што апавяданнямі аб планах можна толькі рассмяшыць Усявышняга.

Верагодна, няма больш вялікіх будаўнікоў планаў за мяне, акрамя амаль што спецыялістаў па матывацыі. На першым плане ў іх спісах поспеху звычайна ідзе аксіёма: «Працу сабе трэба выбіраць па загадзе сэрца», але мала каму сёння яна здаецца пераканаўчай. Тэндэнцыя такая: маладыя людзі адмаўляюцца ад цікавых для сябе факультэтаў на карысць прэстыжу і ілюзій высокага даходу. Напрыклад, для таго, каб цяпер паступіць на фізічны факультэт большасці ВНУ краіны, дастаткова набраць мінімальныя балы на ЦТ — спецыяльнасць не карыстаецца папулярнасцю. Аналітыкі апраўдваюць гэта тым, што фізікі шмат не зарабляюць, а абітурыенты баяцца ў будучыні трапіць на працу ў школу. Цікава, ці баяўся ў свой час стаць настаўнікам Стывен Хокінг, калі пайшоў вучыцца на фізічную спецыяльнасць Кембрыджа.

Але не ўсе гісторыі складваюцца лагічна і адназначна. Мая маці, напрыклад, скончыла гістарычны факультэт, але ніводнага года не працавала па спецыяльнасці, яна пабудавала кар'еру ў галіне тэлежурналістыкі, а пазней архіўнай справы. Некаторыя, атрымаўшы пэўную адукацыю, ніколі да яе не звяртаюцца. Зыходзячы з гэтага, я зрабіла для сябе некалькі высноў:

***Першае:*** працу трэба выбіраць у сферы сваіх інтарэсаў. Бо «лузеры» і паспяховыя сустракаюцца паўсюдна, а цікавасць да свайго занятку дае дадатковую матывацыю.




***Другое:*** ніколі нельга быць да канца ўпэўненым у тым, што будзе далей. Жыццё часам заносіць ледзь не ў паралельныя сусветы.

***Трэцяе:*** часам трэба расслабляцца і жыць сённяшнім днём.

Сёння ўсё ідзе па маім плане, які быў пабудаваны ў шостым класе, але я не ведаю, кім буду праз дваццаць гадоў: яшчэ журналістам, ужо рэжысёрам ці ўвогуле мастаком. Але я ведаю вось што: я хачу жыць у гармоніі з сабой і светам.

# Рэстарацыя пачынаецца з афіцыянта




Вы лічылі ў дзяцінстве зоркі? Лічылі. Кожны тут лічыў. Тут — гэта ў свеце. Калі з вамі ў памяшканні яшчэ 3 (або няхай 73) чалавекі, то будзьце ўпэўнены: усе яны засыналі за гэтай складанай арыфметыкай. Зараз я прапаную вам заняцца ёй жа, але спусцімся з неба на зямлю. Пагаворым пра нашу сталіцу.

Мінск. Колькі ў ім вуліц? На дадзены момант налічваецца аж 1290! Аднойчы раніцай я ішла па адной з іх. Назавем яе «Вуліца №18» (відавочна, што нумары ім яшчэ ніхто не даваў).

Колькі ў Мінску кафэ і рэстаранаў? Сёння каля 2000. Так, ідучы па «васямнаццатай», я зайшла, скажам, у кафэ пад нумарам... 53! Установы грамадскага харчавання таксама не нумаруюцца. Хоць мне здаецца гэта зручным. Уявіце, вы звяртаецеся да знаёмых з прапановай пасядзець увечары ў «Сорак сёмым» або «Дванаццатым», і ўсе адразу разумеюць, наколькі гэта далёка ад іх дома.

Калі вуліцы і кавярні яшчэ паддаюцца нейкаму ўліку, то людзі, якія працуюць у іх, — не. Павінна прапанаваць вам прайсці са мной у «Пяцьдзясят трэцяе» і правесці адзін дзень з яго работнікам — афіцыянтам. Героем нашай рубрыкі стала Настасся са стажам працы паўгода.

## ПРЫШПІЛІЦЕ РАМЯНІ: ПАДАРОЖЖА Ў ПРАФЕСІЮ ПАЧЫНАЕЦЦА!

Я села каля дзвярэй. У гэты ж момант, вітаючы мяне, дзяўчына прынесла меню. Што было далей, вядома: я зрабіла заказ, паснедала, разлічылася. На першы погляд нічога незвычайнага. Пра ўсе «звычайнасці» і «незвычайнасці» прафесіі Наста распавяла, вызваліўшыся ад спраў. Не, і штосьці мне ўдалося прыкмеціць самой.

Падсеўшы да мяне, адразу кажа: «Вы седзіце за столікам №3» (па іх правілах, зварот да кліента на «ты» недапушчальны). Азіраючыся, шукаю адзнаку з лічбай. Вядома ж, на стале яе не будзе: афіцыянты ўсё трымаюць у галаве. Дарэчы, яны ж і заўсёды ва ўсім вінаватыя: ежу рыхтуюць кухары, але перасолены суп — бяда афіцыянта, плямы на шклянцы — таксама. І за дрэнны слых — наракай на сябе. Распавядае, што аднойчы пераблытала піцу «Сытную» з «Сырнай». Але абышлося: памылкова прыгатаваную піцу з'ела сама. Але больш такога не практыкуе.

# Адзін дзень

Праз некалькі месяцаў працы з’явілася і так званае «прафесійнае». Напрыклад, павячэраўшы са сваякамі, спяшаецца прыбраць за імі са стала, а калі прыходзіць з сябрамі ў кавярню, не можа спакойна размаўляць на вольныя тэмы: міжволі сочыць за працай афіцыянта, які іх абслугоўвае, нярэдка робіць яму заўвагі. На гэтым моманце заўвагай яе аповед перапыніў адміністратар, бо афіцыянтам забаронена прысаджвацца за столікі да кліентаў. Да таго часу наведвальнікаў у зале было яшчэ няшмат. Увесь іх аб’ём прыйшоўся на вечар. Тады Наста і пачала бегаць, як заведзены ваўчок, разносячы па тры талеркі адначасова. А мне прынесла мой заказ — латэ, — падышоўшы з левага боку і трымаючы руку за спінай.

Наогул, у іх шмат правілаў і ёсць свой этыкет. Калі вы пажадаеце паспрабаваць сябе ў прафесіі афіцыянткі, то вось інструкцыя:

***1. Галоўная ўмова*** — вольны час. І гэта не абавязкова павінны быць 24 гадзіны ў суткі. Напрыклад, наша гераіня працуе на выхадных, а ў будні атрымлівае вышэйшую адукацыю. Кажа, што адно другому не перашкаджае: «Чым больш чалавек заняты, тым больш ён паспявае».

***2. Галоўныя патрабаванні*** — вывучыць меню і склад страў (у тым ліку і па-англійску), умець працаваць у калектыве і быць мілай. Апошняе, дарэчы, не так важна для працадаўцы, як для самога афіцыянта. Ад ступені мілажальнасці залежыць колькасць чаявых, а яны нярэдка перавышаюць штомесячны заробак у 4—5 разоў.

***3. Умець:*** працаваць у калектыве і трымаць шклянкі вось такім чынам:



***4. Навучыцца:*** не прытуляцца да сцяны, не прысаджвацца за столікі наведвальнікаў, адмаўляць незнаёмым хлопцам у просьбе выйсці замуж. Настассі прапаноўвалі, і не раз, а цэлых тры разы! Дзесьці аджартоўвалася, а дзесьці сур’ёзна прыходзілася тлумачыць Настойліваму, чаму «не».

Прафесія афіцыянта не з’яўляецца настолькі спецыфічнай, каб яе немагчыма было засвоіць большасці ахвотных. Працэс навучання можа адбывацца, напрыклад, як у школе афіцыянтаў, так і непасрэдна на працоўным месцы. Апошні — варыянт нашай гераіні, і ён доўжыцца да гэтага часу.

Калі я адыходзіла, хлопец за барнай стойкай спытаў, ці можа мяне зацікавіць прафесія бармэна. Але зоркай майго дня была афіцыянтка. Калі ў дзяцінстве вы ўсё ж такі не падымалі галаву ўверх, паглядзець на начное неба, то зрабіце гэта цяпер. Пачніце свой адлік з зорак, якія побач з вамі.

***Марына Шантыр***

# Хай жаданні здзяйсняюцца!

***Людзі жадаюць шмат і палка, але, на жаль, далёка не ўсё здзяйсняецца. Чаму? Бо загадваць жаданні таксама трэба вучыцца! Тут, як і ў любым школьным прадмеце, ёсць свае законы і правілы.***



*Святлана Сітнік, псіхолаг*

## ДАКЛАДНА ВЕДАЙ, ЧАГО ТЫ ХОЧАШ!

Уяві, што ты, як стары з казкі Пушкіна, злавіў залатую рыбіну. У яе ёсць сваё жаданне — каб ты хутчэй яе адпусціў, а ўзамен яна абяцае выканаць тваё — самае запаветнае. Уяві, што ты прамаўляеш залатой рыбіне сваё жаданне. Яна разумее яго?

Фішка ў тым, што тваё жаданне павінна быць такім простым і дакладным, каб яго зразумела нават рыбіна! Вучыся фармуляваць свае жаданні дакладна. «А магчыма аднойчы адбудзецца так, што калісьці я стану якім-небудзь пісьменнікам і напішу якую-небудзь кніжку пра якога-небудзь героя», — рыбіна зломіць сваю пазалочаную галаву, пакуль разгадае тваю мазгатню. А ты ў выніку застанешся ні з чым, без жадання, без рыбіны.

Паспрабуй без лішніх слоў, напрыклад, без слоў-спадзяванняў: «а раптам», «а мо калі-небудзь», «магчыма», «калі пашанцуе» і «я спадзяюся». Замяні іх на «я хачу». На месцы рыбіны табе з кім было б зручней мець справу? З тым, хто мямліць, сам дакладна не ведае, чаго ён хоча: «Ну, я хацеў, напэўна, папрасіць цябе, так, на ўсялякі выпадак, калі ёсць такая магчымасць, зрабі, каб у мяне ўсё было добра» — ці з тым, хто не ўпусціць свой шанц: «Я хачу стаць зоркай, хай мая група будзе самай папулярнай у краіне»?..

«Каб у мяне ўсё было добра», — тое яшчэ жаданне! Калі добра? Дзе добра? З кім добра? А што значыць — усё? І чаму толькі добра, чаму не выдатна ці цудоўна? Можа быць і лепш, ці не так? Наш герой відавочна прайграў, калі абмежаваў сваё жыццё словам «добра». Жадаючы атрымаць як мага больш, ён зрабіў сваё жаданне такім размытым і невыразным, такім абагульненым, што паставіў пад сумненне само яго выкананне. Пра такое кажуць: пра ўсё і ні пра што. Пазбягай падобных «абагульненых» жаданняў, лепш мець некалькі невялікіх, але канкрэтных. Напрыклад, «я хачу займацца вакалам кожны дзень» або «праз год я буду вельмі добра спяваць» замест «было б добра стаць зоркай».

## ТВАЁ ЖАДАННЕ ПАВІННА БЫЦЬ ТВАІМ!

Паназірай за людзьмі — чые жаданні яны выконваюць? Вось шпацыруюць дзве сяброўкі, размаўляюць «ні пра што». У адной з іх — сумны, млявы выгляд, бачна, што свецкая размова яе зусім не цікавіць. Магчыма, сяброўка прапанавала



Мастачка Марыя Агрэніч

прайсціся, а яна пагадзілася, выканаўшы жаданне сяброўкі. А сваё — пачытаць новую мангу — пакінула ляжаць на паліцы каля тэлевізара.

А вось ідуць дзяўчаты, прыбраная па модзе, — чые жаданні яны выконваюць? Ну, па-першае, дызайнера: ён, напэўна, хацеў творчай рэалізацыі і прасоўвання сваіх ідэй. Па-другое, вытворцаў адзення, прадаўцоў і маркетолагаў: яны здолелі прадаць свой тавар і атрымалі за яго грошы. І, па-трэцяе, напрыклад, нарэшце, спраўдзілася мара дачкі ўладальніка брэнда пра новую дарагую машыну… О'кей, калі гэтая дзяўчына, што ідзе нам насустрач, любіць прыгожа і модна апранацца… Але! Што калі яна адпавядае модзе, бо так трэба, бо так робіць яе сяброўка, бо так раіць маці, бо іншых жаданняў у яе няма? Тады гэта сумная гісторыя.

У людзей, якія здзяйсняюць свае жаданні, на твары заўсёды радасць. Тваё жаданне павінна натхняць цябе, а яго здзяйсненне — прыносіць толькі добрыя пачуцці. Калі ты цяжка выдыхнуў паветра і сказаў пра сябе: «Нарэшце гэта сустрэча скончылася» — наўрад ці ты жадаў гэтай сустрэчы. Тое ж і з іншымі тваімі жаданнямі — калі тое, што ты робіш, не прыносіць табе добрых, станоўчых эмоцый, паспрабуй заняцца чымсьці іншым.

## ДАПАМАГАЙ СВАЙМУ ЖАДАННЮ ЗДЗЕЙСНІЦЦА!

Калі памяняць спартыўную секцыю на студыю танцаў, кнігу на тэлевізар можна, то памяняць важныя для твайго жыцця заняткі (вучобу ці клопат пра малодшага брата) на іншыя наўрад ці магчыма. Што рабіць у такіх выпадках? Падумаць, да выканання якіх іншых тваіх жаданняў прывядзе тое, што ты сёння робіш. Напрыклад, дзякуючы добрай вучобе ты можаш лёгка паступіць ва ўніверсітэт,

атрымаць патрэбную табе прафесію і стаць тым, кім марыш. Так, гэта не вызваліць цябе ад абавязкаў, але яны перастануць цябе абцяжарваць.

Напоўні сумныя абавязковыя справы сваімі жаданнямі, дадай ім натхнення! Напрыклад, ты хочаш быць лепшым ці падабацца суседцы па парце — рабі «хатняе» па матэматыцы разам з гэтым жаданнем, і ты яшчэ здзівішся сваім матэматычным здольнасцям. Ці праяві фантазію ў выхаванні малодшага брата. Ён перашкаджае табе рабіць тое, што ты хочаш, — дык няхай дапамагае табе! Напрыклад, вытра пыл ці памые посуд. Ён дапаможа табе хутчэй скончыць хатнія справы, і ты вызваліш час на свае справы і жаданні. Лепш зрабіць брата сваім памочнікам, чым бурчаць на яго.

Безліч нашых пажаданняў залежаць ад акалічнасцей або іншых людзей. Але, на жаль, ні іншыя людзі (за выключэннем некаторых), ні тым больш акалічнасці не зацікаўлены ў тым, каб здзяйсняць нашы жаданні. Тут толькі твой інтарэс. Таму не жыві ў ілюзіі, і тым больш не крыўдуй на навакольных — яны не феі і не чараўнікі і не абавязаныя займацца тваімі жаданнямі — сваіх вышэй за дах.

Выдатна, калі ў вас ёсць агульныя жаданні (разам пайсці ў кіно на той фільм, які падабаецца абодвум) ці іх жаданні супадаюць з тваімі (маці хоча, каб яе дзіця было шчаслівае, таму і сама не супраць набыць яму штосьці новенькае і цікавенькае). Але калі вашы жаданні не супадаюць або зусім супярэчаць адно аднаму — табе давядзецца стаць чараўніком самому. Але гэта не цяжка, калі тваё жаданне рэальнае, а не чарадзейная ілюзія.

Калі ты марыш іграць на гітары — без штодзённых заняткаў не абысціся. Калі хочаш мець прыгожае цела — трэба займацца спортам ці хаця б абмяжоўваць сябе ў салодкім. Калі ты хочаш атрымаць каханне — навучыся кахаць сам. Той, хто дабіўся поспеху і здзяйснення сваіх жаданняў, ведае, што не трэба чакаць, калі прыплыве залатая рыбіна — трэба дзейнічаць. Рабіць хоць штосьці. А потым раз… Узяць і не выпускаць свой шанц. Менавіта так і здзяйсняецца запаветнае.

Перапынак

## Квартэт выконвае арыю «Бліны»

Патрабуюцца чатыры ўдзельнікі. Кожны з іх павінен спяваць сваю «партыю».

Пачынае першы, павольна і ўрачыста: «Блін-н-н! Блін-н-н! Блін-н-н!»

Далучаецца другі (крыху менш урачыста): «Палова бліна! Палова бліна! Палова бліна!»

Трэці пачынае сваё, ужо больш хутка: «Чвэрць бліна! Чвэрць бліна! Чвэрць бліна!»

І, нарэшце, апошні: «Блінчыкі! Блінчыкі! Блінчыкі!»

У канцы, калі заспяваюць усе, прычым, кожны сваё, — вельмі весела атрымаецца!



# Карыда




Мастачка Марыя Агрэніч

Аўтар рубрыкі Ліна Багданава

— Кавальчук, да дошкі! — голас Пікі не прадракаў нічога добрага.

А да канца ўрока заставалася дзесяць хвілін. І Соня спадзявалася, што пранясе. Крыўдна ўвесь урок трэсціся трусам пад кустом.

Дзяўчына ўстала і паплялася да дошкі на дрыжачых нагах. Крок. Яшчэ крок. І яшчэ… Яна набліжалася да эпіцэнтра. Гледачы шалелі ў чаканні захапляльнага відовішча.

Соня была не падобная на іншых. Магчыма, менавіта таму адчувала і разумела іначай. Аднойчы яна ўбачыла па тэлевізары карыду.

— Які жах! — абурылася маці. — І каму патрэбны падобныя крывавыя прыгоды? Гэты пікадор асуджаны на боль, калі не на смерць. Зарабляць на жыццё такім чынам? Пазбаўце! І яшчэ любавацца? Кашмар!

А Соні было шкада быка. Той выскачыў з варотаў з вачыма, налітымі ад жаху крывёю. І паімчаў на немінучую смерць, адчайна супраціўляючыся непазбежнаму канцу.

Вось і яна цяпер адчувала сябе быком, які імчыць на вастрыё пікі. Пікай звалі гістарычку, Наталлю Іванаўну Пікаву. Яна любіла свой прадмет без памяці і патрабавала тое самае ад вучняў.

Соня была не супраць. Але арганізм супраціўляўся. Не даваліся ёй вусныя адказы. Хоць забі (цьфу-цьфу!). І вучыла ж да поўначы, зубрыла імёны і даты, складала нейкія табліцы, пісала шпаргалкі.

Раніцай за кубачкам гарбаты ўспаміналa, раскладала новыя веды па палічках. А толькі чула запрашэнне да дошкі, у галаве заставалася ліпучая агідная пустэча і з'яўляўся жах быць высмеянай, наскрозь праткнутай, прыбітай да дошкі.

Яшчэ крыху, і яна зноў пачне «пыкаць» і «мыкаць», чырванец як маленькая мітуслівая дурніца, якая вылупляе вочы і прасвідроўвае ў падлозе дзірку.

А як жа Пашка Субоцін? Ён толькі ўчора прапанаваў сустракацца. Гэта была першая прапанова ад хлопчыка ў яе жыцці! Не, ён не вытрымае такога ўбогага

відовішча. Перакінецца да іншай. Да каго? Да Насты Курылёнак або Алены Тапчылка.

«Божа ж мой! Ну, пра што я думаю! — пранеслася ў галаве. — Мне б набрацца смеласці. Успомніць хоць што-небудзь! Што ў нас сёння за тэма? Усё ж помніла. І ведала…»

— Пачнём, Сафія, — першы ўдар зачапіў сэрца.

Што ж будзе далей?

***Бабуля з пруткамі:***

— Дзяўчынка мая салодзенькая! Дзіцятка гарапашнае! Ну што за напасць з табой здарылася? Калі б двоечнік пакутаваў або хуліган — так ім і трэба!

Можа, падысці да настаўніцы загадзя. Паразмаўляй адкрыта: так, маўляў, і так, вучу-вучу, а толку няма. Не звяры ж у вашай школе працуюць, зразумеюць. Параяць слушнае што. На дадатковыя заняткі запросяць. Можа і «васьмёрачка» якая выгарыць. А там і да «дзявяткі» недалёка. А будзеш на дадатковыя хадзіць, у настаўніцы адносіны іншыя да цябе з'явяцца. Можа, не будзе так мучыць.

Ой, хутчэй бы гэтая школа мінула. Але далей не лягчэй. Трэба мне з сяброўкамі параіцца, можа разам і прыдумаем, як табе дапамагчы. Забяжы пасля ўрокаў. Я цябе гарбатай з малінай пачастую і плюшак напяку. Пад іх лепш думаецца.

Пацярпі крыху. Разам мы тваю бяду абавязкова адолеем.

***Сімпатулька:***

— Не, так нельга! Расквасіцца да таго, каб даць фору канкурэнткам? Мілачка мая, а дзе ж тваё самалюбства? Без самалюбства сёння не пражывеш. Затоптваюць. Сатруць на парашок. Давай разам змагацца за месца пад сонцам.

Падзялюся вопытам. У мяне таксама з вуснымі адказамі напружаныя адносіны. Пісьмова хоць дысертацыю ствaрай, а вусна з цяжкасцю тры словы ў сказ укладу.

Але ж жыву! Як выкручваюся? Вельмі проста: прашу даць мне пісьмовае заданне. Настаўнікі звычайна разумеюць.

Безумоўна, рашэнне не лепшае, галоўнае ў нашым жыцці — зносіны. Але я працую над сабой: вучу на памяць розныя ўрыўкі, потым перад люстэркам выступаю. Паступова праблема вырашаецца. Не так хутка, як хацелася б, але я іду да мэты.

З задавальненнем дзялюся з табой сваім рэцэптам. А ты, калі штосьці слушнае даведаешся, будзь сябрам — напішы. Адна галава добра, а некалькі — «Вікіпедыя». Удачы! Буся.

***Прасунуты старшакласнік:***

— Ну што, прыехалі! У наяўнасці страх сітуацыі публічнай праверкі ведаў. Абапіраючыся на твой расповед, можна адзначыць, што справа не ў ведах, а ў боязі публічных выступленняў. Спярша неабходна падумаць, што цябе пужае.

Калі настаўнік, тады існуе шмат прыёмаў па пераадольванні гэтага страху, дастаткова звярнуцца да інтэрнэту. Калі бар'ер паўстае па прычыне завышаных патрабаванняў бацькоў да тваіх поспехаў у вучобе, тады праблему можна вырашыць у сямейным коле. Галоўнае — выклікаць бацькоў на шчырую размову.

Калі ты баішся атрымаць дрэнную адзнаку, тады трэба пафіласофстваваць: што такое адзнака і якую ролю яна выконвае ў тваім жыцці.

А можа, уся справа ў асабістых комплексах і падлеткавай псіхалогіі?

У любым выпадку, я б на тваім месцы звярнуўся да псіхолага і падзяліўся з бацькамі. Псіхолаг знойдзе прычыну і дапаможа яе ліквідаваць. А бацькі будуць прытрымлівацца яго рэкамендацый. Разам у вас абавязкова атрымаецца!

Што датычыцца твайго Пашкі, тут грузіцца не трэба — калі ў яго сапраўднае пачуццё, атрымаеш дадатковага памочніка. Калі не — ну яго, будзе ў цябе такіх Пашак яшчэ паўтузіна, павер.

А цяпер — да псіхолага. І не марудзь: любы працэс мае прыемна-непрыемную (усё залежыць ад сітуацыі) уласцівасць развівацца. Чым раней пачнеш супрацьдзейнічаць, тым лягчэй перамагчы. Удачы!

***Вопытны псіхолаг:***

— Для твайго заспакаення адразу скажу, што ты не адна такая: страх адказваць каля дошкі сустракаецца ў вучняў рознага ўзросту, прычым часцей у старшакласнікаў. Гэта вельмі перашкаджае вучобе і нясе небяспеку стаць устойлівай уласцівасцю — бояззю публічных выступленняў у будучыні.

Прычын з'яўлення такога страху мноства: недастатковае веданне прадмета, адносіны, негатыўны досвед, псіхалагічныя праблемы. Дапамога пачынаецца з вызначэння вытокаў. Імкненне да аўтарытэту ў вачах аднакласнікаў, бацькоў, выкладчыкаў, асабістыя амбіцыі, праца на добрую адзнаку — гэтыя фактары могуць узмацняць неспакой. На жаль, падобная сітуацыя часта пачынае разгортвацца па прынцыпе зачараванага кола: страх перашкаджае поспеху, а новыя няўдачы яго, страх, яшчэ і ўзмацняюць.

Першым правілам у такім выпадку будзе абавязковы пераказ хатняга задання. Карысна складаць і запамінаць план адказу і прытрымлівацца яго падчас адказу ў класе.

Няблага спрацоўвае просты прыём аўтатрэнінгу: падлічванне крокаў, калі ідзеш да дошкі. Трэба ўяўляць, што з кожным крокам табе дадаецца ўпэўненасці. А потым павінны адбыцца незаўважаныя для ўсіх глыбокі ўдых і павольны выдых. І сам адказ. Карысна ўспамінаць той спакойны настрой, які суправаджаў пераказ урока дома. Калі адказваеш, старайся думаць пра сэнс таго, што распавядаеш, а не пра сябе і рэакцыі навакольных. Пасля адказу адзнач, што атрымалася, а над чым яшчэ трэба папрацаваць.

У любым выпадку, я хацела б запрасіць цябе на кансультацыю. Дарэчы, і для тваіх бацькоў у мяне знойдзецца некалькі карысных рэкамендацый. Сапраўды, разам мы дапаможам табе больш эфектыўна. Не сумнявайся, усё будзе добра!

І яшчэ: пакінь карыду для аматараў. Табе, мяркую, больш падыдзе які-небудзь рамантычны кліп на YouTube.

# Лепшыя спосабы запамінання дат


Сяргей Грудніцкі, СШ № 66, Гомель

***Як складана змясціць у адной галаве велізарную колькасць дат гістарычных падзей! І трэба ж не толькі запомніць ўсе лічбы, але яшчэ і не зблытаць, што, дзе і калі адбылося. Думаеш, такія суперздольнасці па вывучэнні гісторыі пад сілу толькі батанікам і завучкам? А вось і не! Вучні сярэдняй школы № 66 Гомеля падзяліліся самымі дзейснымі спосабамі запамінання дат.***

**Спосаб №1**
***Аўдыязапісы***

Вызначы, якія даты табе неабходна запомніць, і расстаў іх у храналагічным парадку. Далей уключай дыктафон і весела, нараспеў прамаўляй увесь тэкст, які ты павінен засвоіць. Як толькі запіс будзе спынены, правер, каб у ім не было памылак. А цяпер самае галоўнае: загрузі гэты трэк у свой плэй-ліст і «круці» яго як мага часцей. Даты і падзеі будуць запамінацца самі сабой.

Пры жаданні можна запісаць тэкст пад тваю любімую мелодыю або папулярную кампазіцыю. Знайдзі ў інтэрнэце «мінус» песні і замяні звыклыя словы патрэбнай інфармацыяй. Тэксты песень запамінаюцца нашмат лягчэй, ці не так?

**Спосаб №2**
***Вызначэнне рамак***

Калі табе задалі вывучыць даты пэўнага прамежку часу (15—40 гадоў, паўстагоддзя), знайдзі сярод іх самую галоўную (тую, якую ты добра ведаеш і зможаш прыгадаць у любы момант) і «адштурхоўвайся» ад яе ва ўсе бакі.

*Прыклад:* У 1949 годзе была створана НАТО. За два гады да гэтага Індыя атрымала незалежнасць, за год была абвешчана дзяржава Ізраіль. Праз шэсць гадоў пасля НАТО стварылі Арганізацыю Варшаўскага Дагавора, праз сем гадоў адбылася «Будапешцкая восень».

Можаш скласці храналагічную стужку па сваёй тэме, дзе будуць размешчаны ўсе даты. «Скачы» ад цэнтральнага ліку да астатніх і прамаўляй кожны «крок», каб запомніць інфармацыю лепш.

**Спосаб №3**
***Скарачэнне***

Усе патрэбныя даты адносяцца да аднаго стагоддзя (1534, 1568, 1592)? Пазбаўся ад першых двух лічбаў, і вучыць прыйдзецца ў два разы менш! А гэта нашмат прасцей.

*Прыклад:* У 1962 годзе здарыўся Карыбскі крызіс. Прыбіраем 19, застаецца 62 — менавіта ў кватэры з такім нумарам жыве твой аднакласнік Пеця, які любіць фільмы пра піратаў Карыбскага мора. Або 51 — столькі гадоў тваёй бабулі, якая любіць шмат пісаць у свой дзённік успамінаў (1951-ы — падпісанне ЗША, Вялікабрытаніяй і іншымі краінамі мірнага дагавора з Японіяй).

Як варыянт, з дапамогай дэфіса раздзялі дзве лічбы, якія засталіся (1-3, 2-5), і запамінай іх па кабінетах у школе. Седзячы ў класе біялогіі, 1-4, у думках прамаўляй, што ў 1914 адкрылі Панамскі канал.

### Спосаб №4
***Крэатыўнасць***

Падыдзі да вывучэння важных дат з творчага боку! Ствары прыгожыя дызайнерскія карткі, на адным баку якіх будзе пазначана дата, а на другім — падзея, якая адбылася ў той перыяд. Зрабі іх невялікімі, каб «калоду» можна было браць з сабой куды заўгодна, і карыстайся імі, пакуль стаіш у чарзе, едзеш дадому або шпацыруеш па вуліцы. Проста праглядай іх і паступова старайся адгадаць, калі і як адбылася тая ці іншая падзея.

Прапануй сябрам згуляць у гульню. Раздай кожнаму па картцы і папрасі прыкласці іх да лба тым бокам, дзе пазначана дата. Сядзьце ў круг і абярыце вядучага, які будзе праходзіць міма кожнага ўдзельніка і адгадваць гістарычныя падзеі. Калі ў ролі «вучня» пабываюць ўсе прыяцелі, падвядзіце вынік, якія даты апынуліся невядомымі нікому, а якія падзеі ведае ўся кампанія.

### Спосаб №5
***Візуалізацыя***

Вялікімі і яркімі лічбамі запішы неабходную дату, а вакол яе намалюй падзеі, якія адбыліся ў той перыяд, без выкарыстання слоў і літар.

*Прыклад:* 1951 год, ужо згаданы ў спосабе № 3. Чырвоным маркерам у цэнтры выведзі дату, а потым вазьмі яе ў прамавугольнік, унізе якога будзе размяшчацца твой асабісты подпіс — «падпісанне». У пакінутых месцах намалюй сцягі краін, з аднаго боку — ЗША і Вялікабрытаніі, з другога — Японіі.

Калі прадставіць падзею ну ніяк не атрымліваецца, знайдзі ў інтэрнэце карцінку па тэме, раздрукуй яе і напішы прама на ёй патрэбную дату.

## Перапынак

# «Снежны ком»

Гэтую гульню добра ладзіць на «агеньчыках знаёмстваў», калі ўдзельнікі сядзяць у вялікім цесным коле. Пачынае важаты, які называе сваё імя. Той, хто сядзіць злева ад яго, павінен назваць імя важатага і сваё. Наступныя называюць усе папярэднія імёны і сваё. Закончыць павінен важаты, назваўшы па імёнах усіх удзельнікаў.

Задача складаная, але рэальная. Заадно хутчэй пазнаёміцеся.

# Перадай іншаму!



Аркаша, прывід

Страшныя гісторыі з нумара ў нумар

Андрэй быў вельмі гаваркім падлеткам. Не проста вельмі гаваркім, а нават балбатлівым. Настолькі балбатлівым, што злосная фізічка Маргарыта Фёдараўна прагнала яго з урока ў школьны калідор. Прама з кантрольнай!

Ну, з Маргарытай усё зразумела: у яе ні кропелькі пачуцця гумару і шкодны характар. Але вось Машка Сізова! Сама ж хіхікала паціху над дасціпнасцю, якая дзеля яе ж генерыравалася. А як Андрэя выганялі, дык фыркнула і адвярнулася. Падумаеш, выдатніца! Фіфа бялявая!

Каб не сумаваць, Андрэй падышоў да акна. І адразу ажывіўся: на падаконніку ляжала шакаладнае яйка з сюрпрызам. Адкуль яно тут? Нехта з малых забыўся?

Не важна. Анрэй ацаніў знаходку як падарунак лёсу ў якасці кампенсацыі за перажытую непрыемнасць. Ён разгарнуў фольгу, разламаў шакаладную шкарлупку і спакойна накіраваў яе ў рот. Жуючы ласунак, раскрыў пластыкавы кантэйнер з сюрпрызам.

Як ні дзіўна, у яго сярэдзіне нічога не было. Нічога, акрамя скручанай рулончыкам запіскі. Андрэй разгарнуў яе. Гэта было пісьмо, напісанае ад рукі вельмі дробным почыркам.

*«Табе спадабаўся шакалад? Нічога незвычайнага не заўважаеш?»*

Андрэй прыслухаўся да сябе. Шакалад сапраўды быў дзіўны: занадта салодкі і ліпкі, дагэтуль не атрымалася яго пражаваць. Занепакоіўшыся, хлопчык працягваў чытаць пісьмо.

*«Ты больш не будзеш балбатаць! З гэтай секунды ты ўвогуле ніколі не раскрыеш рот!»*

Андрэй паспрабаваў крыкнуць, але не змог: салодкая ліпкасць спаяла яго зубы і вусны лепш за ўсялякі суперклей. Задыхаючыся ад жаху, ён працягваў чытаць.

*«Баішся? Існуе толькі адзін спосаб пазбавіцца ад закляцця: ты можаш перадаць яго іншаму. Падары каму-небудзь любую шакаладку, і тады пакутаваць будзе ён, а ты вызвалішся».*

> Заканчэнне страшнай гісторыі чытайце ў праекце «Бярозка плюс» на www.maladost.lim.by/berezka

***

Гэтая ноч падалася Андрэю самай жахлівай у жыцці. Бяда ў тым, што з закрытым ротам нельга не толькі гаварыць і есці, але і піць. Пад раніцу смага была такой моцнай, што Андрэй паспрабаваў цягнуць ваду носам, ды ледзь не захлынуўся.

Раніцай змрочны паплёўся ў школу. У партфелі яго ляжала вялікая яркая шакаладка, і ён дакладна ведаў, каму яе падорыць…

# Цудоўныя Нязбодзічы

*Кажуць, перш чым з'явіцца чалавеку на Свет, яшчэ там, на Нябёсах, ён выбірае месца, дзе хоча жыць. Відаць, я тады абрала гэты куточак, найпрыгажэйшы на Зямлі. Ніякія пейзажы свету не могуць параўнацца з простымі малюнкамі лесу, возера, поля…*

Я нарадзілася ў маленькай вёсцы Нязбодзічы, на самым захадзе Гродзенскай вобласці, каля краю Белавежскай пушчы, амаль што каля польскай мяжы. Назва Нязбодзічы мае дзве версіі паходжання. У аснове першай ляжыць паняцце «няздобная, неўрадлівая зямля», у аснове другой — прозвішча Няздобіч. Упершыню вёска згадваецца ў летапісе пад 1566 годам. Праз Нязбодзічы праходзіў гандлёвы шлях з Гародні. У 1790 годзе граф Вінцэнт Тышкевіч адкрыў тут паперную фабрыку. Недалёка ад Нязбодзіч ёсць мясціна, якую і сёння мясцовыя жыхары называюць «паперняй».

«У Нязбодзічах няма нічога адметнага, — скажаце вы, — гэта адна з тысяч вёсак Беларусі». Так, пад нашай вёскай не праходзілі знакамітыя бітвы, ды і наогул нічога значнага не адбывалася, тут ніколі не жыў вядомы пісьменнік ці мастак, ці хоць хто-небудзь вядомы. Але ў тым і шарм. Нязбодзічы для мяне прывабныя сваёй простай прыгажосцю. Побач шумяць векавыя дрэвы. А якія тут заходы сонца! Прыгажэйшых я нідзе і ніколі не бачыла. Небасхіл тут, наогул, незвычайна маляўнічы. Можа, таму што родны?

Людзі тут таксама незвычайныя. Мяне заўсёды захаплялі бабулькі, якія жывуць у маёй вёсцы. Такія на першы погляд малыя і слабыя, яны зусім іншыя насамрэч. Нягледзячы на значныя гады, яны ў душах сваіх маладыя. На пенсіі, а ніколі не адпачываюць: то нявесткам бягуць дапамагаць, то агарод садзяць, то клумбы полюць — не падлічыць іх спраў. А ў нядзелю спяшаюцца на аўтобус — едуць у Свіслач, у царкву. Неверагодна прыемна бачыць, як яны, апранутыя ў святочнае, у хустачках розных колераў, з кветкамі ў руках, заходзяць і вітаюць пасажыраў: «Добры дзень! Дай вам Бог здароўечка!» Але ў іх вачах акрамя дабрыні адбіўся і цяжар пражытых гадоў і падзей.

Не абмінула і Нязбодзічы вайна.

Шумяць сосны, свеціць сонейка, павольна плывуць аблокі на небасхіле. І калі б не ведала, ніколі не сказала б, што на гэтай цудоўнай ляснои палянцы, якая знаходзіцца ў ляску за вёскай, фашысты расстралялі шмат людзей. Пра гэта нагадвае камень-помнік, на якім напісана: «На гэтым месцы 12 ліпеня 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 44 мірных жыхароў з вёсак Нязбодзічы, Качкі і Зарэчаны. Вечная слава тым, хто загінуў!» Калі я сюды прыходжу, заўсёды задумваюся: «Што такое смерць? Чаму яна прыходзіць так

***24 лістапада 2010 года ў індыйскім горадзе Ахмедабад адначасова гулялі ў шахматы больш за 20 тысяч удзельнікаў. Навошта? А проста каб гэтае мерапрыемства занеслі ў Кнігу рэкордаў Гінеса.***

па-рознаму?» Тут людзей расстралялі толькі за тое, што яны маглі далучыцца да партызан. Дзядзьку майго бацькі забіла куля, калі ён выйшаў прывязаць на лузе каня. А мой прадзед загінуў пад Будапештам ужо пад самы канец вайны, так і не завітаўшы ні на хвіліну дадому. Яны загінулі так па-рознаму, але забіла іх адна вайна. Яшчэ і сёння ў лясах каля Нязбодзіч можна пабачыць акопы і варонкі ад выбухаў.

Сёння людзі саромеюцца вёскі. Я вельмі часта сутыкаюся з насмешкамі і падколкамі. Але ўсё гэта мяне не хвалюе. Для мяне няма нічога даражэй за гэтую простую прыроду і гэтых простых людзей. Роднага кутка саромецца — грэх. Яго трэба шанаваць, як бацькоў. Гавораць, Радзіму не выбіраюць. Але я сваю абрала яшчэ там, на Небе.

***Ганна Варонка***

*Мастачка Дар'я Чупрыс*



# Куточак майго дзяцінства

Я не магу пражыць і дня, каб не ўспомніць сваю родную вёску Старына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці.

Дарагі майму сэрцу куток, ты не перастаеш здзіўляць мяне ў любую пару года. Кожны раз, як бываю тут, знаходжу нешта новае, адметнае, што не траплялася воку раней. У такія моманты мне ўспамінаецца беларуская літаратурная класіка, у прыватнасці, паэма «Новая зямля» Якуба Коласа:

Малюнкі родныя і з'явы!
Як вы мне любы, як цікавы,
Як часта мілай чарадою
Вы ўстаяце перада мною!

Вёсачка мая, з чым параўнаць цябе?

Мне здаецца, ты падобна на прывабную паненку з тонкім станам, з бяздоннымі вачамі-азёрамі, з стужкамі дарог, увітымі ў твае валасы. Я ўяўляю цябе маладзіцай у неверагодным убранні, якое саткана з безлічы крышталікаў лёду і дыяментаў шэрані. Ты любуешся сабой, гледзячы ў люстэркі возера і рэчкі, скаваных холадам. Вось-вось грымне дзядуля Мароз у свой бубен і панясуцца, завіруюць сняжынкі-дружкі. Аж дух захопіць! І выйдзеш ты, танцам сваім навекі запалоніш сэрца маё, прыкуеш думкамі да цябе адной, непаўторнай, велічнай, недасягальнай. Ты — руплівая ахоўніца: саграваеш, бароніш, зберагаеш.

Міжволі зноў згадваецца класіка, радкі з верша Максіма Багдановіча «Зімой»:

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег…

Мінаюць дні, і ты, прыгажуня-вёска, змяняеш убранне сваё. Кладзеш сукенку, сатканую з квецені садоў, маладой зялёнай лістоты, уплятаеш у валасы стужкі завораных палёў.

Вёска мая, галаву тваю ўпрыгожвае незвычайны вянок з пралесак і сон-травы. Ты наталяеш смагу свежым бярозавым сокам, дурманіш галаву водарамі мурагоў і красак. Мяняеш ты музыкаў сваіх. Зараз грае табе першы майскі гром, залівіста спяваюць знакамітыя майстры спеваў — жаўрукі і салаўі. Ты цешышся пчолкамі і конікамі.

Як увішная і ўдалая гаспадыня паспяваеш усё: засяваеш, праполваеш, збіраеш ураджай.

І такім прыгожым здаўся твар,
Блізкі мне да кожнае сузлінкі,
Сонца сакавіцкага загар
З першаю вясновай рабацінкай.

Гэта ўжо Васіль Вітка.

Няўмольна ідзе час, а ты ўсё харашэеш, вёска мая, прыгажуня мая! Які знакаміты дызайнер прыклаў руку да твайго ўбрання? Улетку на табе стракаты сарафан з рамонкаў і валошак. У руках тваіх тонкіх — чароўная папараць-кветка. Вусны твае маюць водар суніц і скрыпеню. Неасцярожны рух — і губляеш ты пацеркі свае, і яны разлятаюцца безліччу ягад: суніцамі, чарніцамі, малінамі, буякамі, ажынамі. Ты зборлівая маладзіца: рыхтуеш, папаўняеш, даглядаеш. Ты паўстаеш перада мной такой, якой апісвае цябе Данута Бічэль-Загнетава ў вершы «Раніца»:

Паміж чарніцамі-насмешкамі
згубілася ў гушчэчы.
Унізе пахне сыраежкамі,
а зверху птах шчабеча.

Надыходзіць восень, змяняешся і ты, любая мая вёсачка. Выходзіш мне насустрач з распушчанымі валасамі колеру спелай пшаніцы, стан твой упрыгожваюць ільняныя паясы, на галаве вянец з кляновай лістоты і гронак рабіны. Песціш мяне, нібы маці дзіця, частуеш, адорваеш безліччу падарункаў: мноствам ягад і грыбоў, сакавітымі яблыкамі і грушамі.

Табе па сілах усё: малаціць, жаць, папаўняць засекі.

Села пад пушчаю Восень,
Вочы ўтаропіўшы ўдаль;
Жаль ёй павяўшых дакосін,
Спелых дажынак ёй жаль…

Гэта Янка Купала.

Няма роўных табе, колькі ні шукай! Хіба ж можна, вёска мая, Беларусь мая, не закахацца на ўсё жыццё ў цябе, шчыра і аддана? Немагчыма. Ты ў мяне адзіная. Я ўдзячная Богу, што нарадзілася тут, у Беларусі.

Я часта пытаюся ў сябе: «Чаму ты, мая вёсачка, такая мілая майму сэрцу, чаму, калі ўспамінаю цябе, шчымлівай тугой заходзіцца сэрца?» Мабыць, мілыя мясціны звязаны з роднымі людзьмі? Беларусь, мая вёска, родныя і знаёмыя — для мяне гэта адно і тое ж.

Жывіце доўга-доўга, мае дарагія людзі, што падарылі мне жыццё. Вы — мая апора, мой надзейны бераг і сховішча ў імклівай рацэ з велічнай назвай Жыццё.

Жыві, мая вёсачка Старына, не «старэй» ніколі, чакай мяне, напаўняйся галасамі дзяцей. А я абяцаю: заўсёды знайду час прыехаць сюды, прыйсці, прыляцець, каб проста сустрэцца з табой.

Квітней, мая Беларусь, услаўляю цябе сваімі добрымі справамі і думкамі.

Заклікаю вас, людзі, радкамі знакамітага верша Рыгора Барадуліна:

Трэба дома бываць часцей,
Трэба дома бываць не госцем,
Каб душою не ачарсцвець,
Каб не страціць святое штосьці…

Гэтай простай ісцінай павінен кіравацца кожны, каб быць сапраўдным сынам сваёй Бацькаўшчыны, Асобай, Чалавекам!

Буду памятаць аб гэтым і я.

Абяцаю!

***Надзея Бізгень,***
***10 клас, Шашкоўская СШ, Стаўбцоўскі раён***

# Усё будзе добра

***Мая аднакласніца Алена Гарохавік — дзіўны чалавек. Мы сябруем доўгі час, і я захапляюся яе душой і талентам. Наш 11 «Б» увогуле вельмі любіць і паважае Алену. Яна мастачка. Аднойчы яна расказала мне пра тое, што яе натхняе.***

— Я магу доўга не брацца за аловак. Калі мне скажуць штосьці намаляваць, я буду спрабаваць, магу выкінуць цэлы альбом, бо ў мяне нічога не атрымаецца. А калі я буду адчуваць моцныя эмоцыі, сум або радасць, і патрэбу перанесці іх на паперу — я буду не я, калі не намалюю нешта. Часам я ўстаю ноччу і малюю. Малюю да раніцы. Часам кідаю малюнкі, бяруся за новыя, але ўсё роўна вяртаюся да недаробленай працы. І яна ўжо будзе іншай — больш дарослай.

***Фінляндыю нездарма называюць «краінай тысяч азёр». На яе тэрыторыі іх ажно 190 тысяч. Акрамя таго ў Фінляндыі 179 тысяч і 584 астравы.***

Алена пракаментавала некаторыя свае малюнкі.

*Малюнак № 1*. Не вельмі мудрагелісты. Можна падумаць, што тут намаляваны мама і дачка. А можна ўбачыць адну і тую ж дзяўчыну, якая глядзіць на карціну, толькі ў розныя перыяды свайго жыцця. Хтосьці можа доўга глядзець на гэты малюнак, і ў душы яго ўваскрэснуць успаміны. А нехта нічога не ўбачыць. Цені на малюнку могуць здацца ценямі ад рук маленькай дзяўчынкі і маці, якія спрабуюць злучыцца, але не могуць. Цені могуць здацца ценямі збежных і разбежных мастоў. Збежныя масты — сімвал поспеху, радасных сустрэч, шчасця. Разбежныя — сімвал расстання, сварак, крыўды. Кожны знойдзе ў гэтым малюнку свой сэнс і сваю гісторыю.

*Малюнак № 2*. Пра тое, як часам жорстка ставіцца да нас свет. Я малявала яго ў бальніцы, але ў той момант у мяне быў добры настрой. Звычайна я малюю ў добрым настроі, таму што інакш выходзіць занадта песімістычна. Жыццё можа быць яркім і прыгожым, як ружа. Але няма ружы без шыпоў. Шыпы — цяжкасці жыцця. Людзі заўсёды сутыкаюцца з праблемамі. Аднак яны падаюць і ўстаюць, змагаюцца, і гэты малюнак — сімвал волі, сімвал барацьбы. А злучаныя рукі —



*Малюнак № 1*


*Малюнак № 2*


*Малюнак № 3*


*Малюнак № 4*


*Малюнак № 5*

гэта знак таго, што ўсё ў рэшце рэшт наладжваецца, няма нічога такога, з чым мы не маглі б справіцца. У нас усё будзе добра.

*Малюнак № 3.* Па левай руцэ глядзяць у будучыню, па правай — у мінулае. Лініі на правай руцэ — лініі лесу, пражытага жыцця, пройдзенага шляху, сталення. Тое, што прайшло, — застаецца ў памяці чалавека і на яго руцэ. Наша мінулае нікуды не знікне, мы так ці інакш будзем абапірацца на яго.

*Малюнак № 4.* Гэты малюнак — і боль, і радасць. Кветкі — сімвал шчасця. Мы ўсе радуемся, калі нам дораць кветкі — гэта вельмі прыемна. Ты бярэш кветку — і адчуваеш радасць. Не важна, хто падарыў гэтую ружу, важна тое, што пра цябе памятаюць. Ты радуешся, вельмі моцна сціскаеш жаданую кветку, і тады яна раніць цябе. Напрыклад, хтосьці вельмі моцна хоча гаджэт, потым сядзіць у ім начамі, забываецца пра рэальнае жыццё. Да гэтага меркаваў, што будзе выкарыстоўваць яго на карысць, а атрымліваецца наадварот. Можна прывесці і прыклад чалавечых адносін. Часам мы забываемся пра людзей, ставімся да іх з лёгкай пагардай. Кроплі крыві — кроплі крыві ружы, якая гіне, забытага чалавека, яго слёзы. Рука належыць чалавеку, які сарваў ружу, які не збярог яе, страціў давер, прычыніў боль. Ён яшчэ не ўсвядоміў гэтага, але ўжо бачыць кроплі крыві і слёз.

*Малюнак № 5.* Тут намаляваная дзяўчына. Яна ўражана прыгажосцю ночы, яе цішынёй. Гэты малюнак сімвалізуе лёгкасць. Месяц — святло для чалавека, ён свеціць ярка, але людзі не часта глядзяць на яго. А гэтая дзяўчына верыць у сваю мару, і таму яна блізкая мне.

Я была здзіўлена, калі ўпершыню пабачыла работы Алены, таму што ў іх заключана велізарная мудрасць. Кожны чалавек возьме з іх нешта для сябе. Я жадаю Алене, каб яна заставалася той добрай, прыгожай, таленавітай дзяўчынкай, якой мы бачым яе сёння.

Алена, усе мы, вучні 11 «Б», наш класны кіраўнік Людміла Раманаўна Супрановіч, настаўнікі школы № 3, твае сябры і сваякі, — мы любім цябе! У цябе ўсё будзе добра! Я веру, што ўсе твае мары абавязкова спраўдзяцца.




Подпіс рэдактара

***Кацярына Ігнатовіч,***
***СШ № 3, Стоўбцы***

# Хто не быў у санаторыі, таму не зразумець…

***У мяне дрэнны зрок. І запісы на школьнай дошцы не бачу, і людзей не адрозніваю, і тэлевізар без акуляраў паглядзець не магу. І, здаецца, ёсць усе падставы для хвалявання. Але ж я не панікую. Менавіта дзякуючы дрэннаму зроку я апынулася ў санаторыі «Багатыр», што ў мястэчку Радашковічы. Яскравыя эмоцыі, незабыўныя моманты і толькі прыемныя ўспаміны застаюцца ў мяне пасля кожнай змены. За пяць гадоў гэта месца стала для мяне сапраўдным домам. Канешне ж, так можна сказаць пра любы санаторый ці летні лагер, дзе ўтульна і ўсё падабаецца, але ў маім сэрцы «Багатыр» пакінуў глыбокі след. Чаму?***

По-першае, гэта адзіны санаторый у Беларусі, дзе лечаць захворванні вачэй. Сказаць, што ён дапамагае, — нічога не сказаць. Тут наймацнейшае абсталяванне і першакласныя медыцынскія работнікі. Пасля курса лячэння зрок паляпшаецца: на табліцы для яго праверкі можна бачыць як мінімум на адзін радок больш, чым раней. Акрамя таго, у санаторыі можна атрымліваць працэдуры для ўмацавання агульнага стану здароўя — масаж, інгаляцыі, лекавыя ванныя.

Па-другое, санаторый месціцца ў сасновым бары. Ад такога чыстага паветра прыемна кружыцца галава, а прыгожыя краявіды даюць эстэтычнае задавальненне. Эстэтыка тут, між іншым, не толькі навокал. Выхавальнікі заахвочваюць шукаць прыгажосць у сабе, даюць магчымасць паказаць, што яна жыве ў кожным. «Алё, мы шукаем таленты», «Фабрыка зорак», «Еўрабачанне» і шмат іншых конкурсаў ладзяцца сярод атрадаў. Кожны можа адкрыць ў сабе здольнасці спевака, танцора або фокусніка. Галоўнае — не саромецца: тут ты абавязкова атрымаеш падтрымку арганізатараў і сваёй каманды.

Ёсць меркаванне, што пасля заканчэння змены яе ўдзельнікі забываюцца адзін на аднаго, але гэта няпраўда. Тры гады таму я менавіта тут пазнаёмілася з лепшай сяброўкай. Мы стасуемся, нягледзячы на тое, што жывём у розных гарадах. І я ведаю адну маладую пару, якая за сваё шчасце ўдзячная «Багатыру». Вось так, санаторый зніто ўвае лёсы.

Але, канешне, едуць сюды не за тым, каб уладкоўваць асабістае жыццё. Хто не быў у санаторыі, таму не зразумець, як гэта — прачынацца кожную раніцу пад галасы важатых, есці на падлозе ў сталовай, калі прайграў у карты, танцаваць з самым прыгожым хлопцам змены на дыскатэцы, ладзіць усім атрадам «Мафію», хадзіць у школу, але не атрымліваць хатніх заданняў, рэпеціраваць танцавальныя нумары на «ціхай» гадзіне, размаўляць з дзяўчынкамі пра набалелае па начах… Хто не быў у санаторыі, таму не зразумець слёз развітання.

Таму я імкнуся камунікаваць са сваімі сябрамі з «Багатыра» як мага часцей. А чым матэрыял у часопісе не нагода для яшчэ адной размовы? Я вырашыла запытацца, што больш за ўсё запомнілася ім падчас адпачынку.



***Мікола Барцоў, 18 гадоў.*** На жаль, я быў у гэтым санаторыі толькі адзін раз. Добрая была змена. Часта ўспамінаю, як гулялі на працэдурах у «Словы», «Гарады» і «Імёны». Калі б мне выпаў шанц зноў туды вярнуцца, я б ні за што яго не ўпусціў.

***Ірына Слінько, 16 гадоў.*** «Багатыр» мне паказала сяброўка, якая ездзіла туды неаднаразова. Мне вельмі спадабалася яго атмасфера: добрыя людзі, цікавыя мерапрыемствы, смачная ежа. Асабліва запомніўся момант, калі суседкі спрабавалі ўзняць мне настрой падчас нечаканай хваробы. Я б з ахвотай з'ездзіла туды яшчэ раз, але набліжаюцца іспыты ва ўніверсітэце, а да іх трэба вельмі адказна рыхтавацца.

***Алеся Паўлючэнка, 16 гадоў.*** Калі я ўпершыню апынулася там, мне было адзінаццаць. Мала што памятаю з таго часу, але астатнія змены быццам толькі ўчора завяршыліся. Дваццаць адзін дзень у «Багатыры» пралятае весела і хутка. І мой зрок заўсёды паляпшаўся. Цяпер вучуся ў адзінаццатым класе і, на жаль, больш не змагу туды паехаць, але ж з задавальненнем пражыла б там яшчэ хаця б адну змену.

***Ксенія Камісарава, 17 гадоў.*** Першы раз я прыехала туды ў дзесяць гадоў. Канешне ж, тады яшчэ не разумела харства таго, што адбывалася навокал. А вось чацвёртую змену не забуду ніколі. Гэта было нешта неверагоднае. Менавіта там я знайшла сваю лепшую сяброўку. Гэта знаёмства перавярнула маё жыццё.




Подпіс рэдактара

_______________

***Маргарыта Гайдаржы,***
***11 клас, Аляхновіцкая СШ,***
***Маладзечанскі раён***



# Скрапбукінг як лад жыцця

*Інтэрв'ю*

Скрапбукінг — гэта від хобі, які прыйшоў у нашу краіну не так даўно, даволі хутка распаўсюдзіўся сярод майстроў і стаў вельмі папулярным. Скрапбукінг — гэта выраб альбомаў, паштовак, канвертаў, скрыначак і фотарамак. Наша гераіня, Кацярына Дзянісовіч (Мінск), ужо шмат чаго дамаглася ў гэтым занятку.



**— Раскажыце, з чаго пачалося захапленне скрапбукінгам для вас?**

— Я проста падарожнічала па інтэрнэце і ўбачыла неверагодна прыгожыя паштоўкі і альбомы, зробленыя сваімі рукамі. Тады я не ведала, дзе можна купіць усё неабходнае, таму цікавасць засталася на ўзроўні цікавасці і спробы займацца лічбавым скрапбукінгам (афармленне фатаграфій у спецыяльнай праграме, а пасля раздрукоўка ў выглядзе фотакнігі. — Заўвага аўтара). Успомніла пра скрап, калі нарадзіла дачку. Вельмі хацелася запомніць кожны дзень яе жыцця, таму я вырашыла зрабіць альбом пра першы годзік. Хацелася не друкарскіх альбомаў, а чагосьці цёплага і вельмі асабістага.

**— А як вы асвойвалі тэхніку?**

— Спачатку сама. Дакладней, з дапамогай майстар-класаў у інтэрнэце і часопісах па хэндмэйду. Пачала рабіць паштоўкі, нататнікі і скрыначкі. Але неяк не стала хапаць жывых зносін з тымі, хто падзяляў маё захапленне, ды яшчэ мог бы даць прафесійныя парады. Таму я пачала наведваць курсы скрапбукінгу. Што самае цікавае: на такія курсы ходзяць жанчыны «ва ўзросце». Мне гэта здалося дзіўным, бо многія мае аднагодкі нават не ведаюць значэння слова «скрапбукінг».

**— Ці шмат у скрапбукінгу стыляў?**

— Вельмі шмат, і кожны мае асаблівасці. Напрыклад, для стылю вінтаж характэрна выкарыстанне састарэлых і старамодных рэчаў, дэкору і ўпрыгожанняў з адбіткам часу або іх імітацыя, для гранжа — нядбайнасць: рваныя краі, няроўна прылепленыя элементы, пацёртыя паверхні, для дудла — крамзолі, накіды, подпісы ад рукі, аплікацыі. Я спасцігаю розныя вобласці скрапу. Хочацца паспрабаваць усё, каб спыніцца на тым, што мне будзе бліжэй.

**— Ці ёсць у вас творчы дэвіз адносна скрапу?**

— Складана ў адной фразе змясціць тое, што для мяне значыць скрап. Гэта становіцца ладам жыцця, захоплівае думкі, як новае каханне. Сярод скрап-майстрых існуе жарт: мы, маўляў, падбіраем вопратку, у якой будзем фатаграфавацца, пад колер скрап-паперы, якая ёсць недзе ў нашых засеках. Хаця не, гэта не жарт, гэта сапраўды так!




Подпіс рэдактара

***Сяргей Грудніцкі,***
***СШ № 66, Гомель***

# Сучаснасць нашымі вачыма

*Апытанка*

***Мінулай восенню я вырашыла правесці невялікую даследчыцкую працу. Хацелася разабрацца, што цікава, што дорага нам, моладзі. З часам мяняюцца маральныя прынцыпы, погляды на самыя розныя рэчы, але пра што думаем, чым жывём мы? Я апытала знаёмых з розных класаў. Гэта было сапраўды цікава! У кожным адказе чулася нешта новае.***

Першае пытанне. *Які прадмет вы б хацелі дадаць да тых, што вывучаюцца ў школе?* Адказы наступныя: танцы, англійскую літаратуру, лепку, філасофію, французскую мову, іспанскую мову. Хтосьці, мабыць, спалохаўшыся, сказаў, што цалкам хапае прадметаў, якія ўжо ёсць, і нічога дадаваць не трэба.

Далей я папрасіла *распавесці пра свае мары*. Стаць спявачкай, доктарам, бізнесменам, прэзідэнтам, касманаўтам, вядомым футбалістам, здабыць вечнае жыццё, навучыцца лётаць, зрабіць добрую кар'еру, вырасці хутчэй, навучыцца вадзіць машыну, паступіць ва ўніверсітэт, адправіцца ў Парыж, стаць самай прыгожай дзяўчынай, купіць вялікі дом — вось такія яны, нашы мары. Хтосьці вырашыў прамаўчаць, бо колькасць мараў была велізарнай. А нехта ўсім сэрцам марыць пра тое, каб у сям'і панаваў дабрабыт і родныя, блізкія, дарагія людзі мелі здароўе і шчасце. Такія адказы было прыемна слухаць, і я ў чарговы раз пераканалася, што сям'я — вечная каштоўнасць для чалавека любога ўзросту і часу.

Трэцяе пытанне. *Якім адным словам вы можаце апісаць наш свет?* Аказалася, для ўсіх ён — цудоўны: прыгожы, вясёлы, ідэальны, чысты, любімы, цікавы.

Чацвёртае. *Уявіце сабе, што вам выпала магчымасць адправіцца на Паўночны полюс. Але толькі з адным чалавекам. Хто гэта будзе?* Многія вырашылі ўзяць з сабой маму. А некаторыя нафантазіравалі. Вось якія самыя незвычайныя адказы я пачула: Дзед Мароз, Снягурка, сабака Джэкі, шклянка капустачкі.

У наш час, як і ў мінулыя, шмат у каго ёсць куміры, прыклады поспеху. І мне захацелася даведацца: *хто яны?* Вось некаторыя з іх: Крышціяна Раналда, Ані Лорак, Якуб Колас, Лілі Коленс, M-Band. Але гэта яшчэ не ўсё. *Якое адзінае пытанне яны б задалі свайму куміру пры сустрэчы? Адказы такія:* «Як справы?», «Як вы дамагліся прызнання?», «Што вас матывавала?», «Будзем сябраваць?», «Як жывеш?», «Можна ўзяць аўтограф?», «Ці ходзіце вы ў школу?»

Сёмае. *Уявіце сябе на месцы дырэктара школы. Што б вы змянілі? Што б вы дадалі?* Зрабіла б перапынкі большымі. Уладкаваў бы праблему са школьнай формай. Зрабіла б хатняе заданне ў тры разы большым. Дазволіла б неабавязковую школьную форму. Падоўжыла б урокі. Свет бы палепшыў. Адмяніла б некаторыя ўрокі. Быў бы вельмі ўплывовым. Адкрыла б басейн.

Восьмае. *Як вы праводзіце вольны ад школы час?* Школьнікі адказалі, што яны робяць урокі, гуляюць на вуліцы, займаюцца спортам, гуляюць на камп'ютары, чытаюць, спяць, ездзяць да бабуль, дадаткова вучацца.

Дзявятае. *Што б вы хацелі змяніць у сабе і людзях навокал?* Шмат хто казаў пра тое, што нам не хапае дабрыні. Я згодная з гэтым адказам. Яшчэ гучала, што

людзі павінны стаць больш прыстойнымі, камунікабельнымі, менш пафаснымі, больш шчодрымі і абавязкова заўсёды ўсміхацца.

Наступнае пытанне таксама датычылася праблем сучаснасці: *калі б вы маглі выправіць любую праблему нашага свету, што б гэта было?* Хтосьці ў адказ пажартаваў, а хтосьці паставіўся да пытання сур'ёзна. Мы хочам, каб усе вакол заўсёды былі здаровыя, у свеце не было войнаў і галечы, людзі дыхалі чыстым паветрам, мелі жыллё, аказвалі дапамогу дзецям-інвалідам.

Адзінаццатае пытанне дазволіла даведацца пра *любімыя кнігі і фільмы* нашых хлопцаў і дзяўчат. Вось, на жаль, кароткі пералік любімых кніг — старэйшыя любяць «Рамэа і Джульета», «Вайна і мір», «На Заходнім фронце без перамен», «Вялікі Гэтсбі», сярод малодшых лідарам з'яўляецца кніга «Краіна нявывучаных урокаў». Ну, і спіс даўжэйшы — з фільмаў: «Зорныя войны», «Змрок», «Час прыгод», «Трансформеры», «Прэстыж», «Планета малпаў» — фаварыты нашых старшакласнікаў, «Маша і мядзведзь», «Ну, пачакай!», «Том і Джэры» — выбар малодшых школьнікаў.

Добры чалавек. *Хто ён? Якімі якасцямі валодае?* Гэта было заключнае пытанне. Паставіліся да яго вельмі сур'ёзна. Галоўныя якасці добрага чалавека — спагадлівасць, сумленнасць, пачуццё гумару, уменне падтрымаць, смеласць, шчырасць, справядлівасць, вернасць, уменне быць лідарам, працавітасць.

Падводзячы вынікі працы, мне хочацца супакоіць дарослых: мы, падлеткі, яшчэ не развучыліся разумець навакольны свет. Некаторыя ўжо ў раннім узросце задумваюцца пра будучыню — сваю і асяроддзя. У нас ёсць мары, якія мы збіраемся рэалізаваць. Магчыма, часам мы забываемся, што, каб дамагчыся сваіх мэтаў, трэба прыкласці максімум сіл і старанняў. Але тыя, хто разумее гэта, здолеюць ажыццявіць свае мары, чаго я ім ад усёй душы жадаю!




Подпіс рэдактара

___________

***Кацярына Ігнатовіч,***
***11 «Б» клас, СШ № 3, Стоўбцы***

# Матывацыя ад «Крумкачоў»

*Інтэрв'ю*



***Упэўнена, што кожны з нас хоць бы раз пасля прагляду фільма або прачытання кнігі хацеў пачаць займацца спортам, танцамі ці спевамі. Але найчасцей гэта канчалася, не пачаўшыся. Напрыклад, мяне ўразіў фільм «Крок наперад», але да запісу ў школу танцаў так і не дайшло, вечна нейкія справы.***

Мне пашанцавала ўзяць невялікае інтэрв'ю ў футбаліста ФК «Крумкачы» Ягора Абавацкага, які, аднойчы пераадолеўшы сябе, прыйшоў на трэніроўку па футболе. І ўжо чатыры гады яго цікавасць да спорту толькі расце.



ДАВЕДКА

*ФК «Крумкачы» існуе каля пяці гадоў, гэта адзін з маладых і перспектыўных футбольных клубаў Рэспублікі Беларусь. У 2013 годзе «Крумкачы» гулялі толькі ў трэцяй лізе, а цяпер будуць здзіўляць нас ужо ў вышэйшай.*

**— У якім узросце ты вырашыў займацца футболам?**

— Футболам я займаюся прыкладна з 13—14 гадоў. Хоць звычайна каманды набіраюць ад шасці гадоў. Падабаўся (і падабаецца) наш беларускі футбольны клуб БАТЭ. Аднойчы я проста задумаўся: а чаму б мне не заняцца футболам? Я люблю ўсе віды спорту. І заўсёды імкнуўся ўдзельнічаць ва ўсім, што звязана з ім, але найбольш мяне прыцягвалі камандныя гульні.

**— Ты ўжо абітурыент БДУІР, няўжо не разглядаеш футбол у якасці сваёй будучай прафесіі?**

— Мяне наведвалі такія думкі, але апрача футбола ў мяне ёсць яшчэ захапленне, з якім я планую звязаць сваю будучыню, — праграмаванне. Дый першапачаткова футболам я займаўся толькі для сябе.

**— Што было для цябе самым цяжкім, калі ты толькі пачаў ім займацца?**

— Напэўна, уліцца ў калектыў. Я да апошняга моманту сумняваўся, ці здолею, бо спадабацца ўсім адразу немагчыма. Але з першай гульнёй усё склалася само сабою. На полі была небяспечная сітуацыя, і я вырашыў праявіць сябе — прыкрыць таварыша па камандзе, чаго ад мяне, навічка, не чакалі. Пасля гульні хлопцы хацелі выказаць сваю думку пра мой учынак ці проста даць параду, як лепш зрабіць наступным разам. Дапамог аб'яднацца і наш трэнер — Дзмітрый Анатолевіч Дрожжа. Зараз мы вельмі дружная каманда і падтрымліваем гэту атмасферу як на полі, так і па-за ім.

**— Што ты можаш параіць чытачам, якія толькі пачынаюць займацца футболам?**

— Галоўнае тут — весці здаровы лад жыцця і мець жаданне праяўляць цярплівасць. Калі ёсць жаданне, то можна дабіцца самай складанай мэты. Ну, а здаровы лад жыцця — гэта зразумела, бо які ж з цябе спартсмен са шкоднымі звычкамі? Параю таксама выпрацаваць у сабе пэўную дысцыплінаванасць. Гэта спатрэбіцца і на трэніроўцы, і ў жыцці. Яшчэ для любога занятку неабходна матывацыя. Напрыклад, для мяне матывацыя — мая мара: калі-небудзь згуляць з Віталём Радыёнавым — лідарам БАТЭ па забітых мячах.

Пачынаць штосьці новае ніколі не позна. Галоўнае — верыць у свае сілы і набрацца цярпення. Усім поспеху ў пачынаннях, а я пайду запішуся на танцы.




Подпіс рэдактара

**_Вікторыя Лагавік,_**
**_СШ № 116, Мінск_**

# Загадка «Новай зямлі»

9 клас



***Ці задумваліся вы калі-небудзь, чаму знакамітая паэма Якуба Коласа мае такую загадкавую назву — «Новая зямля»? Мы прывыклі да гэтай назвы і не заўважаем у ёй нічога дзіўнага. Але назва вельмі незвычайная. Справа ў тым, што само гэтае словазлучэнне не магло з'явіцца выпадкова. Калі не ведаць аднаго сакрэта, то немагчыма растлумачыць ні сэнсу такой назвы, ні таго, як яна звязана са зместам твора.***

Чаму я кажу, што назва дзіўная? Па-першае, у ёй адчуваецца нейкая супярэчнасць: зямля — гэта менавіта нешта *старое*, — маем мы на ўвазе тут глебу, сушу, планету (*Зямлю* з вялікай літары), нейкае канкрэтнае месца на гэтай планеце ці яшчэ штосьці. Па-другое, цяжка ўявіць сам кантэкст, у якім магло б узнікнуць такое словазлучэнне. Па-трэцяе, не так лёгка зразумець, што яно павінна азначаць у самой паэме: Міхал марыў не пра *новую* зямлю, а пра *сваю* зямлю.

Але ёсць адказ на пытанне, адкуль гэтае словазлучэнне з'явілася: насамрэч — з Бібліі, а менавіта з апошняй кнігі ў яе складзе, якая называецца «Адкрыццё Яна Багаслова», або — па-грэцку — «Апакаліпсіс». Там ёсць такія словы: «І я ўбачыў новае неба і новую зямлю; бо першае неба і першая зямля адышлі, і мора ўжо няма. І я, Ян, убачыў святы горад, Новы Ерусалім, які сыходзіў з неба ад Бога…»

Сапраўды, у «Апакаліпсісе» гаворыцца не толькі пра «канец свету», але і пра пачатак чагосьці *новага*, таму тут і паяўляюцца гэтыя дзіўныя і загадкавыя словазлучэнні — новае неба, новая зямля…

Як гэта суадносіцца з Коласавай паэмай?

У Міхала сапраўды ёсць мара, але ёй не наканавана здзейсніцца, гэтай мары пра сваю зямлю. Прычым яна не здзейснілася ні ў асабістым плане — Міхал памёр,

не ўбачыўшы сваёй зямлі, ні ў гістарычным плане — сваёй зямлі сяляне ў рэшце рэшт былі пазбаўлены калектывізацыяй. Не можа быць здзейснена гэтая мара і ў плане філасофскім, агульначалавечым: дух чалавека прагне па-сапраўднаму менавіта *новага* неба і *новай* зямлі, таму набыццё нейкіх даброт на зямлі *старой* не даюць яму шчасця і спакою. І тут можна згадаць яшчэ словы з Бібліі: «…мы не маем тут сталага горада, а шукаем таго, які будзе» (успомнім вобраз Новага Ерусаліма). Чалавек на зямлі заўсёды застаецца ў нейкім сэнсе беспрытульным. Таму лёс сям'і Міхала ў паэме Коласа можна разумець і як увасабленне чалавечага лёсу ўвогуле. Нарэшце, згадаем і словы Ісуса Хрыста з Евангелля: «Лісы маюць норы, і птушкі нябесныя гнёзды; а Сын Чалавечы не мае, дзе прыхіліць галаву». Цяпер мы можам лепей зразумець і апошнія радкі паэмы:

Ой вы, дарожанькі людскія,
Пуцінкі вузкія, крывыя!
Вы следам цьмяным снуецеся
І ўсё блукаеце, бы ў лесе,
Вас горне шлях прасторнай плыні
І далягляд ружова-сіні,
Дзе так панадна свеціць сонца,
Дзе думка тчэ свае красёнцы,
Каб новы свет жыцця саткаць,
Заспакаенне сэрцу даць
І разагнаць яго трывогі!..
Прасторны шлях! калі ж, калі
Ты закрасуеш на зямлі
І злучыш нашы ўсе дарогі?

***Грэнландскія кіты жывуць больш за 200 гадоў. Гэта высветлілі, калі ў целе аднаго з іх знайшлі наканечнікі ад гарпуноў пачатку XIX стагоддзя.***

Адзін з літаратуразнаўцаў, які звярнуў увагу на сувязь «Новай зямлі» з «Адкрыццём Яна Багаслова», — Валерый Максімовіч. Ён піша пра тое, што Колас ставіць задачу па-мастацку «спрагназаваць надыход “апакаліпсісу” ў яго трыадзінай сутнасці: як крах сацыяльнай сістэмы, як крах чалавецтва, што занядбала вышэйшыя маральныя каштоўнасці, і крах як следства распаду асобасных адносінаў».

Але як «Апакаліпсіс» — не толькі трагічная, але і светлая кніга, так і «Новая зямля» — адзін з самых светлых твораў беларускай літаратуры (таксама думка В. Максімовіча). Бо героі паэмы жывуць на *старой* зямлі ідэаламі зямлі *новай* — сумленнем, справядлівасцю, духоўнай цнотаю, літасцю і міласэрнасцю, любоўю і верай. А фонам для гэтага па-сапраўднаму хрысціянскага жыцця з'яўляецца крыху прыхаваны вобраз Беларусі, акая і аказваецца тым самым Новым Ерусалімам.

Ёсць кнігі, якія трэба перачытваць не адзін раз. Бясспрэчна, такой кнігай з'яўляецца сама Біблія. А ў беларускай літаратуры ў спісе кніг, вартых неаднаразовага перачытвання, першай я б паставіў паэму Якуба Коласа «Новая зямля», бо з кожным новым прачытаннем будуць адкрывацца новыя загадкі. Сёння мы пагаварылі толькі пра адну з іх…

***Алесь Дуброўскі***



# Абмяркуем прастору

*У кастрычніцкім нумары за мінулы год мы пачыналі працаваць над стварэннем гісторыі для малодшых брата ці сястры. Разглядалі, якім можа быць галоўны герой. Надышоў час падумаць, дзе будуць адбывацца дзеянні.*

Можна выбраць і апісаць звычайныя акалічнасці месца: горад, кватэру, школу, парк. Паспрабуйце распавесці пра тое, што там адбываецца — і вам не прыйдзецца нічога выдумляць. Асяродак, знаёмы кожнаму, дапаможа чытачу «ўвайсці» ў тэкст.

Не пашкодзіць «згуляць» на кантрасце — «пасяліць» незвычайнага героя ў звычайнае асяроддзе. Такі метад дапаможа паверыць у тое, што цуды існуюць недзе побач. Менавіта яго выкарыстала Алена Папова ў кнізе «Казка пра Дзіка, якога намалявалі» — ажывіла малюнак хлопчыка-першакласніка Воўкі Маміна. Папяровы чалавечак атрымаў імя — Дзік і пачаў сацыялізавацца: вучыўся чытаць, наведваў школу (праўда, у заплечніку Воўкі), вырашаў розныя жыццёвыя пытанні.

Калі хочацца чагосьці больш незвычайнага, але каб адбіткі рэальнага жыцця прысутнічалі, можна паспрабаваць стварыць дзве паралельныя прасторы. Часцей за ўсё ў творах сустракаецца сімбіёз рэальнага свету і чарадзейнага, калі пры дапамозе чароўных рэчаў, спецыяльных заклікаў або персанажаў-памочнікаў герой апынаецца ў незвычайных абставінах.Такі працэс можна назіраць у «Казках сіняй падушкі» Кацярыны Хадасевіч-Лісавой. У кнізе пра прыгоды хлопчыка Стасіка аўтар стварае персанажа-правадніка ў «іншы» свет — казачныя месцы. А гэты памочнік — камячок, што жыве ў падушцы, яго завуць Пухлік. Стасік і Пухлік наведваюць Вясёлкавую краіну, Віртуальны горад, Кветкавую краіну — інакш кажучы, падарожнічаюць.

А можна адмовіцца ад усяго рэальнага. І дзеянні перанесці ў міжпланетную прастору (як у «Казачнай аповесці пра міжпланетнага пажарніка і іншых мамурыкаў» Раісы Баравіковай) ці ў падводны свет (памятаеце «Атракцыёны для вадзянікоў: былі і небыліцы пра жыццё надводнае і падводнае» Наталлі Бучынскай?), ці туды, дзе жывуць рэчы (як у «Казках з падстаўкі для алоўкаў» Яны Мацвеевай) або жывёлы (як у «Начной казцы» Наталлі Набокавай).

Калі выбралі жывёльны свет (малеча так любіць гісторыйкі пра вавёрак, ваўкоў і мядзведзяў і іншых), ёсць сэнс распавесці брату або сястры не толькі пра жыццё ў лесе або заапарку, але і пра стасункі хатніх жывёл. Праўда, прыйдзецца надзяліць іх магчымасцямі чалавека: яны змогуць размаўляць на зразумелай маленькаму чытачу мове і вырашаць праблемы кшталту чалавечых. І ад гэтага стануць больш блізкімі.

Стварай свет фантазій так, як табе падабаецца!

***Юля Ваўчок***

# Я — МАСТАК

# № 3

## У выпуску:


Я ВЕДАЮ МАСТАЦТВА
**Гісторыя мастацтва ў вобразах «Дагістарычная Сіксцінская капэла»**
Я ВУЧУСЯ Ў БЕЛАРУСАЎ
**Дар'я Чупрыс**
**Яна проста слухае сябе**
Я КАНЦЭПТ-МАСТАК
**Малюем птушку-Сірына**


Адкрыта запрашэнне для мэтраў сучаснага выяўленчага мастацтва ў рэдакцыйную калегію

Я ведаю мастацтва

# Гісторыя мастацтва ў вобразах «Дагістарычная Сіксцінская капэла»

Менавіта так называюць навукоўцы пячору Ляско ў Францыі, якую лічаць самым дасканалым помнікам культуры эпохі палеаліту. Самыя старажытныя выявы былі зроблены тут прыблізна ў XVIII тысячагоддзі да нашай эры. Не паверыце, але адкрылі яе зусім выпадкова некалькі хлапчукоў у верасні 1940 года. Яны бегалі, скакалі, пакуль не праваліліся ў… мінулае. Цяпер тут музей. Спачатку вам пакажуць «Вялікую залу», альбо, як яе яшчэ называюць, «Залу быкоў», дзе з левага боку ад уваходу размешчаны даўгі фрыз з рознамаштабных жывёл. Спачатку вялікая дзіўная жывёла з таемнымі знакамі, потым дзікія коні, бык з цёмнымі плямамі (ягоны памер каля чатырох метраў у даўжыню). Насупраць — яшчэ адзін бык, паміж імі фігуркі паўночных аленяў… З правага боку дамінуюць дзве велізарныя фігуры быкоў (большая мае памер шэсць метраў). Унізе — карова з цялём. І яшчэ алені, мядзведзі, коні... Першабытныя палеалітычныя мастакі не задумваліся пра кампазіцыю, таму выявы вельмі часта накладаюцца адна на адну. Да гэтага часу многія малюнкі ў пячоры не расшыфраваныя. Найбольшую ўвагу навукоўцаў усіх краін прыцягваюць размешчаныя ў глыбіні пячоры выявы дзікіх коней, бізонаў, бараноў, сярод якіх шмат незразумелых схематычных знакаў…





Калі вам пашчасціць трапіць у пячору Ляско, абавязкова папрасіце, каб вам дазволілі прайсці праз вузкі і нізкі пятнаццаціметровы праход, размешчаны направа ад сярэдзіны «Вялікай залы». Вы трапіце ў іншае прасторнае памяшканне, якое складаецца з дзвюх частак: асноўнае, якое навукоўцы назвалі «нефам», і бакавое, названае «апсідай» (па аналогіі з назвамі частак больш позніх храмаў). Тут можна ўбачыць фрыз з васьмі галоў каменных бараноў (чатыры пафарбаваныя чырвонаю, а чатыры — чорнаю фарбаю), пяць галоў аленяў, выявы каровы, коней, бізонаў, а таксама схематычныя выявы, знакі стралы, дзіды, што нанесены паверх выяў жывёл. Сілуэты каня і бізона маюць па сем знакаў стралы.

Справа ў тым, што мастацтва ў тыя далёкія часы выконвала не толькі эстэтычную (усе выявы звяроў вельмі прыгожыя), пазнавальную, камунікатыўную (перадача інфармацыі), але і магічную функцыю. І мужчыны, калі выпраўляліся на паляванне, такім чынам заклікалі ўдачу.

«Апсіда» — гэта паглыбленне ў правай частцы «нефа», заканчваецца вузкім кароткім праходам. І там размешчана ўнікальная, дасюль так і не расшыфраваная сцэна, якая ў палеалітычным мастацтве не мае аналогій. У цэнтры вы ўбачыце мужчыну з птушынаю галавою, што падае на зямлю. Проста перад ім — паранены бізон: у яго вывальваюцца вантробы, а ён пагрозліва наставіў рогі. Месца ранення дыяганальна перасякае дзіда (кап'ё). Побач з чалавекам, які падае, — доўгі прадмет з навершам у выглядзе птушкі. Злева можна разглядзець насарога, які адыходзіць з месца бойкі. Фігуру насарога яднаюць з астатнімі героямі два рады кропачак.

Можа быць, палеалітычны мастак увасобіў рэальную сцэну, што адбылася на паляванні? Чалавек замаскіраваўся пад птушку, схаваўся, чакаў, каб упаляваць звера. Але тут на яго вачах адбыўся паядынак паміж бізонам і насарогам. Насарог параніў бізона, у таго нават выпалі вантробы, і збег. А паляўнічы не паспеў нанесці бізону смяротны ўдар. Раз'ятраны бізон накінуўся на яго. Дзіда зламалася, паляўнічы ўпаў, побач упала і дзіда-мяталка з навершам у выглядзе птушкі…



Будзеце ў пячоры Ляско ці ўбачыце гэтую сцэну ў інтэрнэце — паспрабуйце даць сваю трактоўку.

У перыяд мезаліту (сярэдні каменны век), калі з'яўяцца лук і стрэлы, чалавек пачне пагражаць чалавеку, выявы будуць рабіць хутка, у выглядзе сілуэтаў, з'явіцца кампазіцыя, але мастацтва пачне выконваць найперш не эстэтычную, а камунікатыўную функцыю. У перыяд неаліту (новы каменны век) інфармацыю навучацца перадаваць знакамі, з'явіцца арнамент. А палеалітычныя выявы каштоўныя тым, што чалавек толькі пачынае вывучаць навакольны свет, і першымі, хто прыцягнуў ягоную ўвагу, былі жывёлы. Нават не верыцца, што ў тыя далёкія дагістарычныя часы мастакі маглі так дасканала ўвасабляць жывёл… Цудоўныя выявы можна ўбачыць не толькі ў пячоры Ляско, але і ў пячоры Альтаміра (Іспанія).

А хочаце пакінуць на памяць нашчадкам свой аўтапартрэт, як рабілі гэта нашы далёкія палеалітычныя продкі? Вазьміце фарбу, абмакніце ў яе далонь і прыкладзіце да паперы ці сцяны. Вось і ўсё. У кожнага ж з нас адбітак рукі непаўторны. І, як сведчаць адбіткі на сценах палеалітычных пячор, могуць захоўвацца тысячагоддзямі. І ў пячоры Ляско сярод выяў звяроў, якія можна разглядаць гадзінамі, пэўна ж, дзесьці застаўся і адбітак рукі мастака, у якога сцялася сэрца ад захаплення…

Усе палююць — трэба ежа,
Жанчыны мараць шыць адзежу.
Мастак
Адкінуў дзіду, крэйду ўзяў
І звера смела напісаў…

***Галіна Багданава, мастацтвазнаўца***



# Яна проста слухае сябе
# Дар’я Чупрыс

***— Мой шлях да прафесіі мастака пачаўся ў дзіцячым садку, — расказвае Дар’я Чупрыс. — Аднойчы я зрабіла выдатнага пеўніка! Напэўна, нешта асаблівае было ў той дзіцячай працы, бо пеўніка вылучыла і ацаніла выхавацелька. І маёй маме ў той жа вечар сказалі: звярніце ўвагу на Дашу, у яе атрымліваецца маляваць не так, як у іншых дзетак. Мама ўвагу сапраўды звярнула — і з першага класа аддала мяне вучыцца ў мастацкую школу.***

Школа дала свабоду самавыяўлення, але яе базы аказалася недастаткова, каб рухацца наперад. Каб паступіць у каледж, трэба было сур’ёзна валодаць асновамі акадэмічнага малюнка.

Бацькі дачку ва ўсім падтрымлівалі, хоць яна яшчэ не да канца ўсведамляла сур’ёзнасць свайго прафесійнага выбару. Дар’я пачала займацца дадаткова — і ўсяго за пяць месяцаў падрыхтавалася да іспытаў. І паступіла з першага разу. І гэта падзея назаўсёды засталася ў памяці юнай мастачкі, як нешта дзіўнае.

У гімназіі-каледжы № 26 наваспечаную студэнтку Дар’ю Чупрыс сустрэлі такія самыя, як у школе, парты ды патрабаванне паслушэнства і дысцыпліны. Тут не было той атмасферы звышсвабоды, уласцівай іншым навучальным установам таго ж профілю. Затое каледж даваў выдатную адукацыю ў плане акадэмічнай пастаноўкі мастацкіх навыкаў.

Вучоба ў гімназіі-каледжы падыходзіла да завяршэння, трэба было вырашаць, куды рухацца далей. Дызайн мэблі? Манументальны жывапіс? Самы галоўны выбар у жыцці Дашы дапамагла зрабіць Юлія Валер’еўна Касцюкевіч, таленавіты настаўнік і бясспрэчны аўтарытэт. Яна бачыла ў вучаніцы толькі графіка. І Дар’я Чупрыс прыслухалася да меркавання любімага педагога і паступіла ў Акадэмію мастацтваў на аддзяленне графікі. Пра гэта выбар яна ніколі не шкадавала.

— Поўнае пападанне! Аўтарытэтны факультэт і універсальнае ўменне. Нас вучылі ўсяму. Я магу і на планшэце што заўгодна маляваць, і анатомію выдатна ведаю. Нам далі такую мастацкую базу, за якую не будзеш чырванець і за межамі роднай краіны.



*«Заход сонца», акварэль, 2013 г.*



*«Уваход», акварэль, 2014 г.*



*«Размова», сухая ігла, 2016 г.*

Дар'я Чупрыс правільна вызначыла свой жыццёвы шлях. А калі быць дакладным, яна проста слухала сябе. Спачатку нібы плыла па цячэнні. Яе вялі акалічнасці і выпадковыя сустрэчы. Яны і несвядомыя рашэнні адыгралі вялікую ролю. Дар'я доўга не ўяўляла, кім хоча быць. Проста малявала, малявала...

— Я часта жартую, што калі нешта малюю, з нечым новым сутыкаюся або сустракаю незнаёмых, але цудоўных людзей, то адчуваю, быццам аднекуль зверху на мяне апускаецца чароўны слуп святла. У маім жыцці многае адбываецца па натхненні, вырашаецца звыш. Таму я ніколі не загадваю наперад, далёка не планую. Хоць многія не разумеюць, як можна жыць, не ўсведамляючы пэўна і дакладна, куды рухаешся. Але ў мяне такі лёс. Адзінае сапраўды ведаю: я і далей хачу займацца мастацтвам, хачу развівацца, тварыць. Бо сярод мастакоў, на жаль, часта сустракаюцца людзі, якія проста добра робяць тое, што навучыліся рабіць, — і ўсё. Мне ж хочацца быць актуальнай і заставацца на плыву. Як бы ні закруціла жыццё ў будучыні, буду цялёпкацца да апошняга!

Яна нейкая нешаблонная, трошкі нерашучая, не крыклівая. Як і яе творчасць. Працы Дар'і Чупрыс ні з чыімі не хочацца параўноўваць. Напэўна, таму, што яна ні на каго не раўняецца. У яе няма жорсткіх аўтарытэтаў, творчай прывязкі, яўнага пераймання. Яна чэрпае сілы з зямлі, ад прыроды.

«Хата каля дарогі», «Мальвы», «Святло ў акне», «Аксаміткі» — акварэльныя эцюды Дар'і Чупрыс хочацца памацаць, такія яны жывыя і цёплыя. Мастачка распавяла, што яна доўга вучылася працаваць акварэллю. Гэта вельмі капрызная тэхніка. У ёй заўсёды ёсць элемент выпадковасці. Яе не перапішаш. Толькі на трэці год вучобы ў Акадэміі дзяўчына асвоіла акварэль. І вельмі яе палюбіла. Графіку ж, аловак Дар'я Чупрыс любіла заўсёды. З часам алоўкавая графіка перайшла ў графічныя тэхнікі. Іх разнастайнасць і магчымасці сталі для дзяўчыны сапраўдным багаццем.

— У творчасці мяне больш хвалююць чалавечыя тэмы. Мае графічныя работы на першы погляд здаюцца незразумелымі, нават страшнымі: нейкія перапляценні



*«Дыялог», сухая ігла, 2016 г.*

рук і ног. Але я не люблю паказваць тэму чалавека праз маляванне чалавека цалкам. Мне важныя жэсты рук, пазіцыі ступняў, позы, якія адлюстроўваюць унутраны стан. Важная рэбуснасць. На маю думку, пасыл да гледача не павінен счытвацца адразу, быць адназначна зразумелым і даступным. Мастацтва павінна прымушаць думаць. Яно павінна выклікаць разважанні. Маё мастацтва менавіта такое.

Дар'я Чупрыс працуе ў выдавецтве «Пачатковая школа», адпрацоўвае размеркаванне. Малюе разнастайных звяркоў, чалавечкаў для вучэбных выданняў, школьныя плакаты, ілюстрацыі для газет і часопісаў. Пераналадзіцца і ўліцца ў такую працу пасля некалькіх гадоў вольнай творчасці ў Акадэміі мастацтваў было няпроста. Але Дар'я не прывыкла скардзіцца на жыццё. Яна імкнецца выконваць свае абавязкі якасна і на годным узроўні. Праўда, на нешта сваё часу пакуль не застаецца. Магчыма, з гэтай прычыны яна амаль не выстаўляецца. Лічыць, што старыя працы адсылаць на выставу няправільна — яны не здольныя адлюстраваць рэальны мастацкі ўзровень аўтара.

— У кожнай працы свой тэрмін прыдатнасці. Праходзіць год ці два — і мастак мяняецца сам, мяняюцца яго перажыванні і светаадчуванне. А значыць, піша ён ужо па-іншаму. Сёння ў Беларусі цяжка знайсці вольную выставачную пляцоўку, усё распісана на год наперад. Наша мастацтва жыве — і гэта выдатна! Яно надзвычайнае, наша мастацтва.

У нашай краіне прафесія мастака актуальная. Мастакі патрэбны ў розных месцах і з рознымі інтэрпрэтацыямі. Можна афармляць вітрыны ўніверсамаў, можна рэстаўраваць будынкі, можна працаваць у «Wargaming» або аддацца фрылансу. Важна знайсці сваё, менавіта сваё месца. І яшчэ вельмі важна працаваць на карысць.

***Анастасія Сасноўская***

# Малюем птушку-сірына

***Міфічная істота птушка-сірын паходзіць з грэчаскай міфалогіі. Пазней гэты вобраз трапіў і ў славянскую традыцыю. Доўга існуючы ў міфе пра вырай і сусветнае дрэва, разам з гамаюнам і алканостам яна з'яўляецца птушкай-вешчуном.***

*Рэферэнсы:* выява птушкі (лепей савы), выява дзяўчыны, схема анатоміі чалавека, старажытная лубачная выява сірына, карціна Васняцова «Сірын і Алканост».

Маючы перад вачыма некалькі выяў, сінтэзуем адзін персанаж. Пачынаем з цела птушкі. Прасочым, як яно будуецца. Цела птушкі, якая сядзіць, упісваецца ў авал. Вывучаем выяву птушкі і ўсведамляем логіку пабудовы цела. Лапы ставім на вялікі пляскаты камень. Верхнюю частку цела птушкі паступова пераўтвараем у фрагмент дзявочага цела. Тут галоўная складанасць — патрапіць у прапорцыі. Галава дзяўчыны не павінна атрымацца занадта малой ці занадта вялікай. А яе рукі павінны арганічна пераўтварыцца ў крылы птушкі.

Прамалёўваем птушыныя ногі. Тут важна лапкі «паставіць» на апору, абазначыць суставы. Уяві, што ўсе яны функцыянальныя і могуць рухацца. Абазначаем грудку сірына і пазваночнік дзяўчыны. Важна аб'яднаць яго з пазваночнікам птушкі.



3

4

5

Удасканальваем часткі цела і апрацоўваем выяву тонам — накладаем асноўныя уласныя цені. Пастарайся паказаць з дапамогай тону аб'ём і формы. Удакладняем форму галавы і рысы твару дзяўчыны, малюем валасы.

Апрацоўваем дэталі — апярэнне сірына, фактуру лапак. Дадаём пластыку доўгім пер'ям, накладаем паўцені. Тоўстымі лініямі выдзяляем пярэдні план, лініі задняга плана аслабляем. Наносім узор на апярэнне.

Цяпер апрацоўваем тонам усю паставу, надзяляем сірына асабістымі рысамі твару, уласныя цені робім глыбокімі, ачышчаем ілюстрацыю ад непатрэбных ліній.

Завяршальныя штрыхі — дробныя дэталі, блікі, пластыка валасоў і апярэння.

***Алеся Галота***

6



Мастачка Дар'я Чупрыс

# Дар на беразе возера

Гэта здарылася познім летам, калі я гасцяваў у вёсцы ў сваёй бабулі. Пятнаццаць мне было тады, і па вечарах мы з сябрамі часта збіраліся ля возера. Распальвалі вогнішча, падпяклі хлеб. Хтосьці прыносіў гітару, песні спявалі, байкі расказвалі, адным словам — весяліліся.

І была ў нашай кампаніі адна дзяўчынка, якая мне падабалася. Ох, як падабалася! Я яе заўсёды дадому праводзіў пасля нашых пасядзелак, а вяртацца назад прыходзілася зноў берагам возера…

Аднойчы, правёўшы сваю вясковую сяброўку, ішоў я дадому ў поўнай, як кажуць, адзіноце. Ад возера па беразе слаўся туман і я, каб не згубіць сцяжынку, глядзеў пад ногі. Але раптам краем вока заўважыў, як над возерам мільгануў праменьчык святла. Узняўшы галаву, пачаў угледацца і… нечакана паслізнуўся, зваліўшыся прама ў ваду.

Сорамна прызнацца, але плаваць я не ўмеў. І нават не спрабаваў навучыцца, калі шчыра. А ўсё таму, што ў дзяцінстве ледзьве не патануў, калі на моры з бацькамі адпачываў. Палез па дурасці ў глыбокае месца… Ледзь выратавалі. Вады, памятаю, наглытаўся салёнай…

Каля бабулінай вёскі возера глыбокае, і берагі абрывістыя. Бацькі стараліся не пускаць сваіх дзяцей да вады, забаранялі адным бегаць купацца, палохалі рознымі жудасцямі. Але гэта амаль не дзейнічала, асабліва на падлеткаў. Такая прыгажосць побач, хіба ж іх утрымаеш! Цэлымі днямі ашываліся дзеці каля вады. Я дык вышэй каленяў у ваду рэдка заходзіў, а хто плаваць умеў — плавалі. Тыя, хто смялейшы — дык далекавата ад берага адплывалі…

А вось цяпер і сам я на глыбіні нечакана апынуўся. І адчуваю, што тану. Нагамі-рукамі па вадзе малачу, але карысці ад гэтага аніякай. Адзенне намокла, цяжкім зрабілася, а халодныя слізкія водарасці ногі абвіваюць, на дно цягнуць…

У нейкі момант я перастаў супраціўляцца. Прытомнасць знікала… і раптам нечакана адчуў на сваёй руцэ нечыя халодныя пальцы. Яшчэ, памятаю, падумаў, што гэта смерць па мяне прыйшла, каб душу забраць.

І ў гэты ж момант хтосьці моцна рвануў мяне за руку, выцягваючы на паверхню, а потым аказалася, што я ляжу на беразе.

Першае, што ўбачыў, калі расплюшчыў вочы, — гэта святло. Дзіўнае нейкае святло, якое залівала ўсё навокал, не даючы сфакусіравацца зроку. Але я ўсё ж змог разглядзець, што святло гэтае сыходзіць ад прыгожай дзяўчыны, якая нізка нада мной нахілілася.

На галаве ў маёй чароўнай выратавальніцы быў вянок з нейкіх зусім незнаёмых мне кветак, доўгія валасы амаль дакраналіся да майго твару… А потым яна ўсміхнулася мне чароўнай і адначасова сумнай усмешкай. А пасля я канчаткова страціў прытомнасць…

Калі ачуняў, была ўжо глыбокая ноч, і зоркі ў небе зіхацелі на дзіва ярка. Чамусьці падумалася, што, магчыма, усё тое, што адбылося са мной, толькі прымроілася… Але вопратка была мокрай.

Падняўшыся, я павольна пакрочыў дадому. Нейкая незразумелая самота панавала на душы. Я адчуваў, што самота гэтая пасялілася там надоўга. Яшчэ я думаў: расказваць бабулі пра тое, што адбылося, ці не расказваць. Вырашыў расказаць…

— Дык гэта ж Берагіня была! — сказала бабуля. — Людзей яны заўсёды аберагалі, гэтыя прыгажуні… Ды вось толькі забыліся пра іх людзі. Раней, калі мясціны нашы яшчэ паганскімі былі, людзі ў розных духаў шчыра верылі, у тым ліку і ў берагінь, дзяўчат-прыгажунь, што па берагах рэчак ды азёраў жылі. Людзі іх шанавалі, падарункі ім на беразе пакідалі, таму што добрымі яны былі, у адрозненні ад русалак, людзей ад злых духаў аберагалі. А яшчэ маглі тым, хто тоне, дапамагчы… Вось як табе…

Раніцай наступнага дня, перад ад’ездам у горад, я аднёс на бераг кубак малака і скібу хлеба — у знак удзячнасці. Доўга думаў, ці пакінуць яшчэ і запіску. Усё ж напісаў: «Дзякуй!»

Бабуля казала потым, што на наступны дзень пайшла да возера. Майго падарунка там ужо не было, затое на яго месцы ляжаў вяночак з кветак. Дзіўных нейкіх кветак, якія ніколі не трапляліся ў гэтай мясцовасці.

*Анастасія Карташова,*
*лаўрэат Магілёўскага гарадскога конкурсу юных пісьменнікаў,*
*літаратурны клуб «Святліца»*

# Яшчэ раз пра магілёўскую легенду

Даўным-даўно, калі на Беларусі жылі яшчэ асілкі-волаты, быў сярод іх Кароль, і не было яму роўных ні па сіле, ні па мудрасці. І быў у яго цудоўны палац, якраз такі, які і павінен быць у такога магутнага і мудрага Караля.

І быў у Караля Леў, які заўсёды знаходзіўся побач з гаспадаром. Калі Кароль сядзеў на троне, Леў клаўся каля яго ног і чуйна прыслухоўваўся да кожнага слова Караля. Калі Кароль спаў, Леў ахоўваў ягоны сон.

Калі ж на беларускія землі нападалі цёмныя сілы, Кароль садзіўся на свайго Льва — і яны заўсёды перамагалі разам. Бо не было воіна, роўнага светламу Каралю па воінскім майстэрстве, і не было мяча больш вострага і загартаванага. А яшчэ не было больш вернага і надзейнага паплечніка, чым каралеўскі Леў.

Усе любілі вялікага Караля, і толькі Каралева цёмных эльфаў усім сэрцам яго ненавідзела і кожны дзень маліла багоў аб ягонай смерці. Ды толькі дарэмна, бо багі любілі добрых людзей і акружалі іх нябачнай абаронай. Ад хваробаў жа і няшчасцяў абараняў гаспадара адданы Леў.

І тады Каралева цёмных эльфаў вырашыла сама загубіць светлага Караля. Ператварылася яна ў прыгожую дзяўчыну, такую прыгожую, што нават святло сонца згасала перад яе хараством. Падышла Каралева да брамы каралеўскага палаца і пачала прасіць варту, каб пусцілі яе да Караля.

Як толькі ўбачыў Кароль прыгажуню, адразу ж у яе закахаўся. Ды так моцна, што не пажадаў з ёй расставацца.

І толькі верны Леў адчуў небяспеку. Але як ні спрабаваў ён раскрыць вочы свайму гаспадару, той пажадаў заставацца сляпым і нічога не бачыць акрамя сваёй каханкі. А злая Каралева тым часам уліла ў келіх з вінам смяротную атруту і, чароўна ўсміхаючыся, працягнула гэты келіх Каралю.

Нічога не падазраючы, Кароль хацеў узяць бакал з рук каханай, ды Леў яго апярэдзіў. Кінуўся ён на злую Каралеву і вырваў з яе чорнае сэрца.

Кароль, не памятаючы сябе ад гневу, выхапіў меч і ўдарыў ім вернага Льва. Палілася з раны чырвоная кроў і… ператварылася раптам ў пунсовую ружу. А з раны мёртвай Каралевы кроў палілася чорная і стала потым чартапалохам…

Тут толькі зразумеў Кароль, што нарабіў. Упаў ён на калені перад целам забітага сябра, заплакаў ад болю і раскаяння. Але нічога ўжо нельга было змяніць.

Льва пахавалі пад сценамі палаца, і кожны вечар прыходзіў Кароль да ягонай магілы. І заўсёды клаў на магільны камень пунсовыя ружы…

Шмат часу з тае пары прайшло. Памёр Кароль, дашчэнту зруйнаваліся сцены велічнага палаца, але засталося ў народзе паданне, і калі пазней на гэтым месцы ўзнік новы горад, жыхары назвалі яго Магілёвам — у памяць аб магіле Льва, які да канца застаўся адданым свайму Каралю.

***Варвара Ціхановіч,***
***лаўрэат Магілёўскага гарадскога конкурсу юных пісьменнікаў,***
***10 «Б» клас, СШ № 42, Магілёў***




Мастачка Дар'я Чупрыс

# Горад, які дыхае...

Наш горад — як жывая істота. Ён чулы, часам можа дапамагчы, а можа і адправіць у душэўныя бадзянні па сваіх маўклівых вулачках. Яго сцены маюць вушы, і як толькі нехта прамовіць пра некага нешта нядобрае — адразу на другім канцы гіганцкага вуха агульныя дзеляцца на адданых сяброў і злосных ворагаў.

Вясна. Час абуджэння горада ад халодных абдымкаў суровай зімы-папярэдніцы, час пачынаць нешта новае, час расчыняць вокны ў будучыню, забывацца пра нядобрае і пра тое, што перашкаджае рухацца наперад, цягне назад.

Аднаўляюцца людзі. Аднаўляецца разам з імі і горад.

Няўтульна бывае часам у гарачых гарадскіх сценах летам, але месца з халодным напоем альбо марозівам, з вясёлай кампаніяй добрых сяброў ратуе ад спякоты. І таму ўсё ж весела людзям улетку, падбадзёрвае іх родны горад.

Канец вясёлых летніх дзянькоў выразна адчуваецца дзесьці ў пачатку кастрычніка, калі горад апранаецца ва ўсе адценні золата і чырвані або набывае колер шэрасці, туманаў. Але калі сонца прабіваецца скрозь тумановыя сцены, горад быццам зноў ажывае. Пачынаюць разумець сэнс пражытага гараджане — задумваецца над гэтым і сам горад.

Зіма — час, калі ўсё ў гэтым кутку замірае. Але нешта іншае, чароўнае, вызваляецца з туманаў — белы, бліскучы снег. Ён займае ў гэтай гісторыі сваё месца, ён — нібыта адзенне для змерзлага соннага горада. Грэюцца цёплымі коўдрамі і бадзёрымі думкамі людзі, грэецца пад белым мяккім дываном і наш горад.

Горад — гэта мы, а мы — гэта горад! Мы будуем сярод яго мураваных і цагляных кварталаў надзейную абарону ад нягод і смутку, і толькі мы можам вырашаць, якім стане горад у будучыні.

Мы — ягоны сімвал! І хай вакол усё імкліва змяняецца, але ў гэтым вялікім каменным вуллі ад кожнага з нас хоць штосьці ды залежыць. Магчыма, залежыць усё…

***Аляксей Раманенка,***
***9 клас, СШ № 20, Мінск***

# Што такое шчасце?

Што ж такое шчасце?

Ёсць слова «шчасце» — яго мы пішам, чытаем і вымаўляем.

Ёсць паняцце «шчасце». Яно тлумачыцца ў слоўніку як поспех, дабрабыт, дабро.

Але бывае яшчэ шчасце — стан душы, які садзейнічае найбольшаму ўнутранаму задавальненню. З гэтым паняццем прыгадваюцца толькі станоўчыя эмоцыі, смех і радасць. Слова шчасце — глыбокае, абстрактнае, выражаецца яно праз эмоцыі і міміку чалавека.

Складана і цікава разважаць пра шчасце. З вуснаў кожнага чалавека злятае гэтае слова, а адказаць адназначна, што яно такое — не можа ніхто.

Для адных шчасце — гэта матэрыяльныя каштоўнасці, забяспечанае жыццё, дарагія рэчы. Для іншых — гармонія, спакой, раўнавага. Калі такому чалавеку радасна, весела і ўсё ў яго ладзіцца, ён верыць, што шчаслівы.

Задаю сабе пытанне: «Чаму?» Магчыма, таму, што побач з ім сябры. А можа, таму толькі, што ёсць магчымасць праявіць сябе, дапамагчы іншым, займацца цікавымі справамі.

Важна кожнаму разгледзець у сабе, адчуць сэрцам — што такое шчасце, таму што у кожнага яно сваё.

А калі ў жыцці штосьці пайшло не так, штосьці не атрымалася, людзям здаецца, што шчасця не хапае або зусім няма. А сустракаюцца і такія, у якіх, здаецца, ёсць усё: маральныя і матэрыяльныя каштоўнасці, і гармонія, і здароўе, — а яны ўсё роўна лічаць, што шчасця ў іх няма. І паўстае пытанне: «Што ж тады шчасце для іх?»

Зноў няма адказу. І зноў я прыходжу да высновы, што ў кожнага — сваё шчасце.

Магчыма, шчасце — гэта не «сіняя птушка», якую ўвесь час шукаюць і ловяць, а тое, што ёсць сёння, тут, побач з намі. Тое, што мы ўжо трымаем у руках.

Для мяне шчасце — гэта мама і тата, мае сябры і добрыя адзнакі ў школе, цікавыя заняткі і гульні, магчымасць жыць, тварыць, пазнаваць нешта новае і цікавае. Маё шчасце — гэта тое, што ёсць у мяне сёння.

А тое, што будзе заўтра, — гэта мае мары!

***Ганна Карсюк,***
***8 клас, Шашкоўская СШ, Стаўбцоўскі раён***

# Казка аб Дажджынцы

Казкі школьнага ранца



Жыла-была ў Воблачным горадзе крыштальна-празрыстая кропелька, звалі яе Дажджынка. Як усе дзеці, малеча забаўлялася, весялілася, гуляла. Але аднойчы Нябесная каралева абвясціла, што хутка наступіць важны момант: усе маладзенькія кропелькі павінны будуць пакінуць Воблачны горад і адправіцца ўніз, у першае сваё падарожжа.

І вось гэты дзень настаў. Каралева гучным голасам называла нумары кропелек, і па яе загадзе яны павінны былі неадкладна адпраўляцца ў палёт. Вось і наша Дадждынка адправілася ў паветранае падарожжа пад прыгожым нумарам «100». Перад стартам малая вельмі хвалявалася, бо зусім не ведала, што чакае яе там, унізе. Стаіўшы дыханне і зажмурыўшыся, яна адарвалася ад воблака і паляцела. Ляцела, кружылася… Вой! Палёт запаволіўся! Нясмела маленькая падарожніца адкрыла адно вочка, потым другое, агледзелася.

А на зямлі было нават прыгажэй, чым у яе родным Воблачным горадзе. Кропелька з цікавасцю выбірала месца для пасадкі. Ёй спадабаўся вялікі прыгожы дом. На яго пакатым даху сядзела ўжо шмат яе сябровак.

Маленькай празрыстай бурбалкай Дадждынка прызямлілася на дах і радасна павіталася з тымі, хто быў побач з ёй. Але, не ўтрымаўшыся на даху, пакацілася ўніз услед за сяброўкамі, з даху ўпала на падаконнік.

Акно было крыху прыадчыненае, таму некалькі кропелек асцярожна прабраліся ў дом і з цікавасцю пачалі даследаваць пакой, у які выпадкова патрапілі.

Раптам дзверы адчыніліся, і ўвайшоў гаспадар. І перш за ўсё ён паспяшаўся зачыніць акно, каб не намачыўся дажджом каштоўны персідскі дыван.

Кропелькі захваляваліся, бо шлях назад быў перакрыты! Пачалі разважаць над тым, як ім адсюль выбрацца. Дадждынка прапанавала пашукаць які-небудзь транспартны сродак. Але дзе ж яго ўзяць у кватэры?

І як раз у гэты момант з канапы саскочыў вялікі руды кот, які відавочна меў намер адправіцца на вулічны шпацыр.

«А вось і наш транспарт!» — радасна ўсклікнула Дадждынка.

На лік «тры» сяброўкі саскочылі на ката і з камфортам выехалі на ім на вуліцу. Але там дождджык ужо скончыўся, і цёплыя сонечныя промні пачалі так прыпякаць, што кропелькі адчулі раптам нейкую незвычайную лёгкасць. А потым, узняўшыся з поўсці ката, яны зноў паляцелі ўверх.

Сяброўкі ўздымаліся ўсё вышэй і вышэй, аж пакуль не дабраліся да роднага Воблачнага горада. Тут ім можна было крыху адпачыць, зноў стаць кропелькамі і адправіцца ў новае падарожжа.

«Цікава, у якой частцы свету мы апынёмся наступны раз? Якія нас чакаюць прыгоды?» — думала маленькая Дадждынка, седзячы з сяброўкамі на самым ускрайку пухнатага мяккага воблака.

*Station Лісавы,*

***Станіслаў Лісавы,***
***5 «Б» клас, гімназія № 24, Мінск***

Перапынак

# «Скнара»

Удзельнікаў гульні ставяць у чаргу, адзін за адным. На падлозе (на адлегласці кроку) у лінію раскладваюцца яблыкі (20 штук).

Першы ўдзельнік садзіцца на кукішкі і бярэ першы яблык, потым робіць (не ўстаючы) маленькі скачок да наступнага яблыка, бярэ яго і гэткім жа чынам перамяшчаецца далей. Трэба сабраць як мага больш яблыкаў, але іх нельга збіраць у адзенне, толькі ў рукі, на калені, прыціскаючы да цела падбародкам. Як толькі хоць адзін яблык выпадзе, да задання прыступае наступны ўдзельнік… Весела!



*Мастачка Дар'я Чупрыс*

## ПРОВАДЫ ЗІМЫ

Прайшлі тры месяцы няўтульнай
Халоднай зацяжной зімы.
Усюды ў парках песні, гульні,
Бо тут зіму праводзім мы.

Затым вясну мы клікаць будзем,
Прылёт буслоў у родны край.
Цяпло падорыць сонца людзям.
Прыходзь вясна!
Зіма, бывай!

***Дар'я Завадская,***
***9 клас, гімназія № 35, Мінск***

## ВЯСНОВАЕ

* * *

Не дарэмна ж беларусы
Клічуць цёплую вясну…
Таюць снежныя абрусы,
Прачынаюцца ад сну
Сіне-белыя пралескі
Сярод першае травы…
Бачыш, як уздоўж узлеску
Пралятаюць жураvы?!
Песняй родны край вітаюць:
І бярозку, і сасну…
Не дарэмна ж мы гукаем,
Клічам цёплую вясну!

* * *

Абдымае чорная ралля
Белыя маленькія зярняты.
Ходзіць каля рэчкі спакваля
Першы бусел, важны і цыбаты.

***Серафім Раула,***
***6 клас, гімназія-каледж***
***мастацтваў, Мінск***

## СМУТАК ДУБА

Дуб стары прытуліўся да ўзгорка,
Дзе вакол беразняк-маладняк.
Яму казкі расказваў штодня,
Зрэдку плакаў трывожна і горка,

Што адзін тут, пакінуты вырас
І вятрам сваю сілу аддаў…
Лепей птушкай падаўся б у вырай
Ці травінкай зялёнаю стаў.

***Аляксандр Мікульчык,***
***10 клас, СШ 144, Мінск***

## НЯВЫЗНАЧАНАЕ…

Застылыя хвалі
У кронах загадкавых дрэў,
Апалая зорка
У кветках свой век дажывае.
І вецер застылы
Забыўся, куды ён ляцеў.
Бясконцае мора,
Дзе сонца пад вечар згарае.

Мелодыі кропляў,
Народжаных летнім дажджом.
Мелодыі каменных пліт…
Іх не кожны пачуе.
Раса на лістоце —
Сляза невядома каго.
Ціхуткая тайна,
Якая ў паўзмроку начуе.

Я йшла паміж дрэў,
А вакол шапацела трава.
Вянком з дзікіх кветак
Увіта мая галава.
Мне рэха складала
Імёны з пялёсткаў і сноў,
Як зваць мяне? Тое
Падкажа вам шум каласоў.

*Ганна Крацько,*
*8 клас, гімназія № 8, Мінск*

## АЙЧЫНА

Якое неба блакітнае!
Якія зялёныя травы!
І слова, кімсьці падкінутае,
Ляціць праз бары і дубравы.
Ляціць яно паміж дрэў,
Між сосен, магутных дубоў,
Дзе птушак чуецца спеў,
Дзе ў пушчах статкі зуброў.
І ў небе сярод буслоў,
І з ветрам у далячыні…
Найлепшае з тысячы слоў,
Гучнае слова — Айчына!

## ДУМКА

Я не бачыла сонца,
Не бачыла воблакаў.
Толькі палосы святла,
Толькі палосы колераў
І чырвоны туман наперадзе.
Белы месяц застыў самотна
Над люстэркам бліскучым вады.
І адкрылася мне праўда шчасця,
Праўда думкі
І думка сама.
Думка тая не мела пачатку,
Думка тая не мела сканчэння.
А туман усё плыў наперадзе,
Не чырвоны, а нейкі бляклы,
І павольна ноч апускалася
На зямлю.

*Дар'я Прохарава,*
*8 клас, гімназія № 75, Мінск*



*Навум Гальпяровіч*

# Я рваў паперу і шаптаў у сне

***

На тонкіх струнах восені маёй
Я ціхую мелодыю сыграю,
Няхай яна плыве над родным краем,
Хай будзе светла і самотна ёй.
Хай слухаюць палеткі і сады,
Дамы і птушкі, гарады і дрэвы…
І захінецца тым шчымлівым спевам
Мой край адзіны ад ліхой бяды.

***

Я подых ночы зноў перакладаў
На мову трапяткую адзіноты,
На ціхую мелодыю самоты,
На пах п'янкі сланечнікаў і траў.
Я так хацеў, каб гэта перадаць
Нібы шаптаннем ветру, светлым словам,
Каб чысцінёй крынічнай роднай мовы
Пра свет чароўны нешта расказаць.
Я рваў паперу і шаптаў у сне,
Выслухваў і прызнанні, і парады,
І свет таемны адкрываўся мне,
Які не паддаецца перакладу.

***Навум Гальпяровіч надрукаваў свой першы верш у наваполацкай газеце «Хімік» у 1967 годзе. Тады яму было 19 гадоў. З той пары многія яго вершы перакладзены на іншыя мовы, а некаторыя сталі песнямі.***

***

Старажытных летапісаў мова
І старонак выцвілых радкі…
Лёс Радзімы, мудры і суровы,
Адгукнуўся раптам праз вякі.
І паўсталі гордыя імёны
Велічных і мужных землякоў,
І матыў, высокі і натхнёны,
У душы паўстаў магутна зноў.
Бо які, ці доўгі, ці кароткі
Шлях звычайны быў у іх жыцці,
Вечны шлях пракладвалі нам продкі,
Па якім і сёння нам ісці.

***

Каб лёс мой пачаўся нанова
І можна было б выбіраць,
Я б толькі Радзіму і мову
Не стаў бы ніколі мяняць.
Над выспаю дзвінскаю поўню,
Сланечнікі ў даўнім акне…
І мудры спагадлівы Полацк,
Што лёсам падораны мне.

***

З дзяцінства грукат цягнікоў
Лавіў праз ноч і цемру,
Чакаў далёкіх іх гудкоў
У радасці таемнай.
Здавалася, што ўсё тады
Спакойна будзе ў свеце,
Калі мне паравозны дым
Праз ноч прыносіць вецер.
Ізноў праносіўся састаў,
Грукочучы па рэйках,
І я з надзеяю чакаў,
Калі заплюшчу вейкі
І ўбачу дзіўны светлы сон,
Які штоноч мне сніцца,
Калі да станцыі вагон
У светлай мроі мчыцца.
Дзе я ўзіраюся ў акно
І бачу ноч і поўню…
Дзяцінства ўжо прайшло даўно,
А сон і сёння помню.
З гадамі хоць мудрэйшы стаў,
Ды часам так ахвота
Пачуць, як вырвецца састаў
З крутога павароту.

***

Калі злятае з дрэва ліст
У парку ціхім, сонным,
Пачуй: нібыта піяніст
Для нас іграе сёння.
Яго мелодыя гучыць



Над восенню панылай
І выклікае прагу жыць,
І абуджае сілы.
Зноў гукі велічна плывуць
Над нашым родным краем
І хоча сэрца жыць і чуць,
Як вечны свет іграе.

***Рыма Ханінава***

# Певень і паўлін

*Калмыцкая казка*

Сябрамі даўнімі былі паўлін ды певень,
Хоць быў на зайздрасць пеўнікаў убор.
Гаворыць тут паўлін суседу: — Хутка цемень,
На свята трэба мне ў суседні двор.
Пазыч касцюм, бо вельмі трэба
Мне выглядаць прыгожа да святла.
Пазыч мне хвост, маім жа ты не грэбуй.
— Ну добра. Толькі хвост вярні з рання.
А як не вернеш, што рабіць мне, браце?
— Як раптам я спазнюся са світаннем
Мяне пакліч, і буду ў тваёй хаце
Адразу ж. Не пакрыўджу доўгім я чаканнем.
Пакліч апоўдні, дружа, ты мяне.
Калі ж апоўдні зноў мяне не будзе,
То кліч увечары, прыйду я да цябе,
Не буду я з пазычаным марудзіць.
Адзеннем памяняліся: вось дзіва!
Пайшоў паўлін у госці на ўсю ноч.
І дзень, другі прайшоў. Няма паўліна.
Галосіць певень. Хоць быў не ахвоч
Спяваць раней. І раніцы, і дні,
І вечары праходзяць у чаканні.
Спявае тройчы ў дзень з тае пары,
Наш певень спадзяецца на спатканне.
Паўлін даўно ўжо збег. А «Ку-ка-рэ-ку»
Развеяў хуткі вецер па палях.
А певень узлятае, недарэка,
Крычыць: — Дзе ж мой убор?!
Як мне шкада! Ах-ах!



***Пераклад Адама Шостака***



Саша Тэмлейн

# Па Той Бок Шафы

— Уставай, засоня! — прамовіў над самым вухам Дзімкі задзірлівы дзявочы голас. — А то прыйдуць за табой монстры! Хоць, ха-ха, ужо прыйшлі!

Дзімка расплюшчыў вочы.

Святло месяца ледзь прасочвалася скрозь шторы і жалюзі, і таму ў пакоі было амаль цёмна. Але ён змог разглядзець, што каля ягонага ложка стаіць дзяўчынка.

Ды дзяўчынка і сама быццам свяцілася, асвятляючы тых, хто стаяў з ёй побач.

А побач стаялі монстры.

Монстр справа нібы аб'еўся пратэрмінаванай «Расцішкі» і вымахаў у здаравенную пачвару з кіпцямі і ікламі. Вочы яго, вялікія і бліскучыя, былі зроблены з самых звычайных вялікіх гузікаў.

Монстр злева ўяўляў з сябе нешта дзівоснае: гэта была жудасная мяшанка са змацаваных разам пластмасавых рук, ускудлачаных сінтэтычных валасоў і лялькавых галоў, у кожнай з якіх з рыпеннем круціліся фарбаваныя шкляныя вочы.

— Прывітанне! — жыццярадасна сказала дзяўчынка. — Знаёмся: гэта — Таптыжкін, а гэта — Джэні-Згубленая-Лялька.

Дзімка пацёр вочы, але монстры нікуды не зніклі.

Яны па-ранейшаму стаялі каля ложка, калыхаючыся і пасопваючы.

Потым Таптыжкін ветліва ўсміхнуўся патройным радам бліскучых завостраных зубоў.

Дзімка зглынуў.

У параўнанні з монстрамі, дзяўчынка была самая звычайная: у сарафане са шматлікімі латкамі (ці, можа, гэта і не сарафан зусім, а начнушка такая?), з ільнянога колеру валасамі, россыпам канапушак на носе і… вялізным сіняком пад левым вокам.

— Гэта хто цябе так? — прашаптаў Дзімка, паказваючы на сіняк.

— А! — сказала дзяўчынка. — Гэта Таптыжкін, незнарок.

Яна пакратала пашкоджанае месца і дадала даверліва:

— Я яшчэ каленкі падрапала. І ў павуціну ўвазюкалася. Вельмі да вас дабірацца нязручна!

— Але як… як вы да мяне патрапілі?

— Як, як? — здзівілася дзяўчынка. — Праз шафу, вядома ж.

Хлопчык міжволі паглядзеў на шафу.

Дзверцы яе і сапраўды былі крыху прыадчыненыя, і нават злавесна парыпвалі...

— Вось што, — строга сказала дзяўчынка. — Хопіць тут размовы розныя размаўляць! А ну, вылазь з ложка!

— Навошта? — здзівіўся хлопчык.

Дзяўчынка ўздыхнула і прысела на край ложка.

— Бандыты хутка да вас прыйдуць, — будзённа сказала яна. — І калі ўбачаць цябе — абавязкова заб'юць.

— Што?

Дзімка папярхнуўся.

— Якія, да д'ябла, бандыты?!

— Звычайныя, — сумна адказала дзяўчынка. — З нажамі і пісталетам.

Дзімка прыціснуў кулакі да галавы, нібы спрабуючы рукамі выціснуць з яе начны кашмар. Не атрымлівалася: страхі не сыходзілі. Дзве пачвары, побач з якімі нават Фрэдзі Кругер выглядаў бы даволі прыстойна, і паміж імі дзяўчынка, такая бледная, нібы ніколі не бачыла сонца.

— Такога не можа быць, — прамармытаў ён неразборліва. — Так не бывае!

— Бывае, — нявесела сказала дзяўчынка. — Яшчэ і не так бывае.

— Вы мне проста сніцеся, — цвёрда адказаў Дзімка і залез пад коўдру з галавой.

Пад коўдрай было ціха, толькі зрэдку чулася нейкае глухое рыпенне і пастукванне, нібыта хтосьці хадзіў па пакоі… Але ж падобныя гукі можна пачуць і ў любы іншы час. А затым хтосьці праз коўдру моцна ўхапіў Дзімку за нос.

— Слухай, ты! — сказала дзяўчынка, і яе голас дрыжаў ад абурэння. — Я не для таго прайшла праз Хады-з-пацукамі, Балотны Калідор і Пакой з вісельнікам, каб ты тут з-за сваёй упартасці канькі адкінуў! Яны ўжо каля дзвярэй, бандыты гэтыя, зараз званіць пачнуць!

І ў гэты момант сапраўды пачуўся званок у дзверы.

Ён заўсёды быў сакавітым, звонкім і вясёлым… А зараз, сярод ночы, прагучаў злавесна...

Дзімка адкінуў з галавы коўдру і ўбачыў, што ягоныя начныя госці нікуды не дзеліся. Дзяўчынка па-ранейшаму сядзела на краі ложка, надзьмутая і скрыжаваўшы рукі на грудзях, Таптыжкін з цікаўнасцю разглядаў Дзімкіну калекцыю DVD-дыскаў, а Джэні глядзелася ў люстэрка, у якім, як гэта ні дзіўна, зусім не адбівалася. Праўда, і люстэрка перад ёй ужо нельга было назваць звычайным: у ім працягнуўся даўжэзны калідор, застаўлены старымі сервантамі. Бясконцы, упрыгожаны dыванамі, ён нібыта запрашаў...

Вось толькі куды?

Але Дзімку зараз куды больш турбаваў нечаканы званок у дзверы, тым больш, што ён паўтарыўся.

— Хто там можа быць? — шэптам спытаў Дзімка ў дзяўчынкі.

— Вось не ведаю, — насмешліва фыркнула тая. — Можа, бацькі твае прыйшлі, малачка табе прынеслі.

— Бацькі ў Барысаве, — буркнуў хлопчык.

— Ну, тады гэта шэры воўк, — з той жа насмешкай у галасе сказала дзяўчынка, і ў яе вачах загарэліся раптам нейкія дзіўныя фіялетавыя агеньчыкі. — Павячэраць табой прыйшоў!

Яна змоўкла і ў цішыні нечакана гучна пстрыкнуў замок.

Сухая пстрычка пранеслася па кватэры, як стрэл, потым ледзь чутна рыпнулі дзверы…

— Адвярніся хоць! — аднымі вуснамі узмаліўся Дзімка. — Апрануцца дай!

Але дзяўчынка зноў ўсміхнулася.

— Ну, і як хочаш!

Адкінуўшы ўбок коўдру, Дзімка паспешліва нацягнуў на сябе штаны, потым гэтак жа хуценька апрануў футболку — у спешцы шыварат-навыварат.

У гэты час у калідоры пачуліся чыесьці асцярожныя крокі, і крокі гэтыя паступова набліжаліся. Перапалоханы Дзімка моцна ўхапіў дзяўчынку за руку і ледзьве не ўскрыкнуў ад нечаканасці.

Рука начной госці была не халоднай нават — ледзяной.

— Куды… куды ісці зараз?!

— Туды!

Дзяўчынка сама вызваліла руку і падштурхнула хлопчыка да дзвярэй шафы.

— У шафу?

Дзімка ведаў: у шафе павінны вісець кашулі і джынсы, але не мог іх там разгледзець. За расчыненымі дзверцамі панаваў абсалютны змрок… У гэтым змроку нешта сіпела і варочалася, нібыта звер.

— Хутчэй давай! — прашаптала дзяўчынка. — Што марудзіш?!

У гэты час крокі пачуліся ўжо зусім побач, і дзяўчынка проста пхнула Дзімку паміж лапатак, ды так моцна, што ён міжволі апынуўся ў шафе. За ім туды ж уціснулася дзяўчынка…

У першае імгненне Дзімка нібыта аслеп. Цемра была вязкай, яна амаль адчувалася. Пахла тканінай і чамусьці сродкам ад молі, а сама шафа аказалася не такой ужо і малой: яны свабодна ў ёй змясціліся сярод адзення.

Дзверцы не былі прыкрытымі цалкам — заставалася вузкая шчыліна. І ў гэтую шчыліну Дзімка добра бачыў цьмяную постаць з нажом у руцэ.

— Дзе шчанюк? — пачуўся грубы голас.

— Не ведаю, — пачулася разгублена ў адказ. — Павінен тут быць…

— Хопіць, — шапнула дзяўчынка і, падчапіўшы пальчыкамі, пацягнула на сябе дзверы.

І наступіла поўная цемра.

Дзімка праглынуў сліну. Сэрца калацілася дзесьці ў горле, замінаючы дыхаць.

— Гэта ж... гэта ж дзядзька Вася, — прашаптаў ён.

— Наводчык, — растлумачыла дзяўчынка. — Ды не шапчы ты, тут можна ў голас казаць: не пачуюць!

— Ды што ты? — спалохана і па-ранейшаму шэптам адазваўся Дзімка. — Яны ж тут, за дзвярыма...

З цемры павольна пачалі праяўляцца абрысы прадметаў.

— Дзвярэй тут больш няма, — з незразумелым сумам у голасе прагаварыла дзяўчынка. — Па законах Таямнічых Хадоў, калі праз дзверы праходзяць больш чым двое, яны зачыняюцца назаўсёды. Так што я больш не змагу да цябе прыйсці. Але і яны не ўвойдуць.

«Цішэй! — хацеў узмаліцца Дзіма, — цішэй!» — Але раптам зразумеў, што з-за дзверцаў шафы і сапраўды не даносіцца зараз аніводнага гуку.

— Вось бачыш! А ты баяўся…

Дзяўчынка ўзяла Дзімку за руку і правяла ёю па шафе знутры.

Паміж дзверцамі больш не было стыку. Суцэльны маналіт.

— Бадзёры-марадзёры! — выказаўся Дзіма. — І куды ж нам цяпер ісці?

— А пойдзем мы, — урачыста сказала дзяўчынка, не адпускаючы ягоную руку, — да мяне ў госці!

І яны пайшлі.

Спачатку адзенне шафы вельмі перашкаджала гэтаму, біла па тварах і нібы жадала схапіць, затрымаць ваўнянымі сваімі рукавамі. Але ўсё рана ці позна канчаецца; і пад рыпенне вешалак і пырханне молі яны выйшлі ў калідор. Дзімка прыгадаў гісторыю пра Нарнію, толькі вось Нарніяй за шафай не пахла. Калідор быў доўгі, цьмяны і сыры. Адзіная лямпачка матлялася пад столлю, нібы вітаючы іх прыход. А дзесьці ўдалечыні звонка падалі кроплі.

Павярнуўшыся, Дзімка заўважыў разнастайныя бальныя сукенкі; яны какетліва паварочваліся і нібы таксама віталіся з Дзімкам.

Дзяўчынка мацней сціснула ягоную руку:

— Мяне, дарэчы, Алінай клічуць.

— А я — Дзімка.

— Ой, ведаю я ўжо! — усклікнула яна і пацягнула яго наперад.

Падлога была няроўная, нібыта вышчарбленая.

Дзімка спатыкнуўся і чартыхнуўся.

— Ідзі ціхенька, — папярэдзіла Аліна. — Тут водзяцца загрызы.

***Саша Тэмлейн на самай справе Аляксандр Змушко, які друкуецца пад псеўданімам. Ён біёлаг па адукацыі, навуковы супрацоўнік аддзела біятэхналогіі Інстытута пладаводства. Піша ў асноўным фантастыку.***

— Загрызы?

— Ага, гэта такія мышы, якія патрапілі ў пастку, а потым іх выкінулі на сметнік. Там яны ажываюць, набіраюцца генна-інжынерных адходаў і запаўзаюць да нас, у Зашаф’е. Жыцця ад іх няма!

Дзімка раптам падумаў, што Джэні і Таптыжкіна з імі таксама няма.

— А дзе?.. — пачаў ён.

Дзяўчынка звярнула да яго свой бледны твар.

«А ці жывая яна?» — падумаў раптам Дзімка, і яму адразу зрабілася ніякавата. А потым яшчэ і сорамна. Аліна гэтая выратавала яму жыццё, кім бы яна ні была. На шчасце, ратавальніца не заўважыла яго сумневаў.

— Джэні наперад сышла, — патлумачыла яна, — у разведку. Ды і падмацавацца ёй трэба… Як жа без ежы! А Таптыжкін у кватэры тваёй застаўся, дзверы замкне і напалохае трошкі. Нічога, ён у каморку потым усё роўна прыйдзе. Я без Таптыжкіна нікуды — ён мяне выгадаваў.

Дзімка згадаў жахлівую іклатую пысу мядзведзіка.

— Таптыжкін цябе выгадаваў? — усумніўся ён.

— А што? — абурылася дзяўчынка. — Ты на яго морду не глядзі, ён ведаеш які добры?! Ад калясачнікаў мяне выратаваў, з Ямы вынес, ежу рэгулярна прыносіў! Я ж зусім дурненькая была... Ды калі б не ён, мяне б паядалы даўно ў норы свае ўцягнулі!

Дзімку раптам стала няўтульна.

— А яны тут ёсць, паядалы? — удакладніў ён, трывожна азіраючыся.

— Паядалы — яны ўсюды, — змрочна сказала дзяўчынка і ўздыхнула.

Так, размаўляючы, яны ішлі і ішлі, і калідор ўвесь час заварочваў налева. Часам са сцен звісалі драты, тырчалі іржавыя трубы і кавалкі нейкага старажытнага цаглянага мура.

Раптам з-за чарговага павароту выбегла Джэні, сваім нечаканым з'яўленнем напалохаўшы хлопчыка да паўсмерці. Шматлікія рукі яе былі ў крыві, вусны на ўсіх лялечных тварах — таксама. Цацачнымі пальцамі адразу трох рук Джэні трымала за хвост нейкае дзіўнае стварэнне: нібы мыш з серыяла пра мутантаў. У стварэння было шэсць лап, пяць чырвоных вачэй і іклы памерам з Дзімкаў мезенец.

— Разумніца, Джэні, папалявала, — ласкава сказала Аліна. — Значыцца, праход адкрыты.

Яны прайшлі яшчэ з дзясятак метраў. У сценах нешта скрэблася і моцна трашчала, нібы нябачныя пацукі прагрызалі тут свае хады.

— Хавайся! — раптам шапнула дзяўчынка і дакранулася сярэднім пальцам да Дзімкавага лба. І адразу ж нібыта халодная іголка ўваткнулася яму ў мозг... І холад… І калі Дзімка апусціў вочы, то ўбачыў, як становяцца празрыстымі ногі.

А потым і ўсё астатняе…

Замест яго і Аліны ў калідоры цяпер была пустата; толькі Джэні нецярпліва пераступала з нагі на нагу. А потым пачуліся чыесьці цяжкія крокі і з-за павароту выйшла Нешта. Дакладней, Нішто…

Гэта была вопратка, пустое адзенне без гаспадара: штаны клёш, пад імі чаравікі, зверху — модная кашуля са стразамі-гузікамі. А яшчэ вышэй лунаў капялюш…

Гэтае Нішто павольна прайшло міма дзяцей і знікла за паваротам. На лялечную Джэні яно не звярнула ніякай увагі.

— Уф, — сказала Аліна. — Пашчасціла нам! А то б…

Не дагаварыўшы, яна змоўкла.

— А то б што? — шэптам пацікавіўся Дзімка.

— Кепска было б! — таксама шэптам патлумачыла Аліна. — Асабліва табе! Гэта ж Смяротнае Адзенне!

— Смяротнае Адзенне?

— Яно самае! Калі гаспадар памірае, а ў шафе застаецца ягонае адзенне, то яно ажывае і само пачынае хадзіць па калідорах. Яму патрэбны Кроў і Жыццё, а ўзяць іх можна толькі ў жывых.

— Нічога сабе! — прашаптаў Дзімка, спалохана азіраючыся.

— Ды яно не ва ўсіх ажывае, — супакоіла хлопчыка Аліна. — Толькі ў наркаманаў...

Калідор пайшоў уніз, і вось ужо драўляныя дошкі знізу змяніліся паркетнай падлогай; на сценах тут віселі карціны, але крыва і коса: не прамавугольнікі, а ромбы… І фарба сцякала з іх, пэцкаючы шпалеры.

Усё гэта было вельмі падобна на змрочныя карціны Дзюрэра або Гераніма Босха, на якія Дзімка аднойчы выпадкова наткнуўся ў інтэрнэце, але ў параўнанні са Смяротным Адзеннем карціны гэтыя выглядалі даволі міла і нават жыццярадасна…

— Раскажы мне пра сябе, — шэптам папрасіў хлопчык у Аліны. — Пра сябе, Таптыгіна, Джэні — хто вы такія?

— Потым раскажу… — уздыхнула дзяўчынка. — А зараз… зараз нам сюды!

Аліна аддзерла кавалак шпалеры і махнула рукой: маўляў, сюды.

Яна ўвайшлі ў вузкі і цесны ход, дзе чамусьці пахла сырам «пармезан».

А зверху на галовы сыпалася пабелка.

— Я — звычайная дзяўчынка, — сказала Аліна, ідучы першая. — Мая маці памерла, бацькі ніколі не было, і мяне хацелі забраць у дзіцячы дом. Тады я залезла ў шафу і паклялася, што ніколі адтуль не пайду, хай нават мяне забяруць Жудасныя Монстры, якія проста павінны жыць у цёмных шафах. І Монстры прыйшлі…

— Мы таксама, здаецца, прыйшлі, — сказаў Дзімка. — Куды далей?

Праход перад імі быў густа зацягнуты павуціннем.

— Ты лепш слухай, — сказала Аліна і пачала расхінаць шаўкавістыя цянёты, нібыта гардзіны.

— Я слухаю, — вінавата адазваўся Дзімка, прабіраючыся следам. — Дык што далей было?

— Монстры прыйшлі і забралі мяне да сябе. Тады я яшчэ не ведала, што гэта такое — Зашаф'е.

— І што ж гэта такое? — спытаў Дзімка.

— Гэта нашы страхі, жаданні і мроі....

Дзяўчынка ўздыхнула і аддзерла наліплае павуцінне з твару.

— Але першымі тут ажываюць самыя жудасныя начныя кашмары…

Яна дакранулася пальцамі да сіняка на скроні. Паморшчылася.

— Тут не кожнаму пашчасціць выжыць. Але я люблю яго — Зашаф'е. А Таптыжкін... калісьці я выкінула яго на сметніцу. Калі мне было пяць гадоў. А можа, і пяці яшчэ не было. І яму прыйшлося там жыць. Сярод гнілога шмацця і бітага шкла. Але Таптыжкін мне дараваў...

Аліна ўздыхнула.

— Ён прыйшоў па мяне, калі мяне атачылі загрызы — у тым самым калідоры. О, у яго ўжо былі іклы і кіпцюры — каб абараняцца ад жорсткасці свету. Ён вырас, бо вырасла і я сама. І ён выратаваў мяне.

Дзімка слухаў, як зачараваны.

— А Джэні... Джэні — боўгі. Дзіцячая страшылка, блізкі родзіч гоблінаў. Яна паўстала з мноства паламаных лялек і сама любіць ламаць. Яна прыходзіць у кашмары да тых, хто псуе лялькі, здзекуецца з іх. Наша мілая Джэні. Але да мяне яна прыйшла таму, што я ніколі не пашкодзіла ніводнай лялькі.

Дзяўчынка махнула рукой.

— Такія вось яны. Таптыжкін і Джэні. Тая, што выратавала мяне, каб аддзячыць, і той, хто выратаваў насуперак маёй няўдзячнасці. Яны — дзве часткі маёй душы. Мая сям'я.

Аліна працягнула руку, адарвала яшчэ адну шпалерыну і цырымонна адступіла ў бок.

— Ну, вось мы і дома. Сардэчна запрашаем, велікадушны сэр!

Дзімка ступіў у невялікую каморку, метры тры на тры велічынёй. Сцены пашыраліся да столі, так што каморка крыху нагадвала перакулены конус. Тут стаялі круглы столік з разьбянымі ножкамі, тры зэдлікі і старэнькая газавая пліта.

— Раскошна, праўда?! — весела сказала дзяўчынка. — Сапраўдныя харомы! Рай!

Яна плюхнулася на адзін з зэдлікаў і падштурхнула да хлопчыка суседні.

На трэцім нечакана апынуўся Таптыжкин: зблізку ён здаваўся яшчэ больш жудасным, а плюшавая поўсць была ўся залеплена брудам і нават крывёю. Бліскучыя вочы-гузікі слізганулі па Дзімку без усялякага выразу.

— Мфырфым пыр фырпм, — сказаў Таптыжкін.

— Ды ты што? — радасна ўсклікнула дзяўчынка і нават у далоні запляскала. — Ён кажа, — павярнулася яна да Дзімкі, — што замкнуў тваіх рабаўнікоў, зачараваў замок, так што да раніцы яны не выйдуць. І соннага тлуму на іх напусціў…

— А кроў тады адкуль? — спытаўся Дзімка.

— Гэта загрызы, — махнула рукой Аліна. — У Таптыжкі з імі свае рахункі.

— А ўжо раніцай мы ім міліцыю выклічам! — дадала яна пасля нядоўгага маўчання. — Не загрызам, рабаўнікам тваім. Ты выклічаш. Мне ў свет людзей надоўга нельга.

— Чаму? — здзівіўся Дзімка.

Аліна не адказала.

— А даўно ты тут?

— Гадоў пяць, — уздыхнула дзяўчынка. — Прызвычаілася. Ды і куды я ў такім выглядзе пайду? Мяне ў дзіцячы дом адразу ж заграбуць. Не ўжо! Я лепш тут... з загрызамі…

Дзіма, нічога не адказваючы, таксама ўздыхнуў.

Ён бачыў маленькую, не занадта цёплую каморку, з прусакамі, якія блішчалі цёмнымі ягадамі на сценах. Ён бачыў дзяўчынку, якая адчайна рабіла выгляд, што ёй тут добра, што ўсё ідзе так, як мае быць. Зрэшты, у гэтага месца і сапраўды было нейкае цёмнае чараўніцтва: лядовая слодыч злой таямніцы ўжо упаўзала паступова і ў ягонае сэрца.

Быць можа, менавіта такімі былі чары Зашаф'я?

А можа, тут што іншае — хто ведае…

Але вось каморка Аліны здалася Дзімку някепскім месцам: вядома, не вельмі тут утульна, але затое — жыві як хочаш, рабі што хочаш, і ніхто табе не ўказ. Ды гэта ж мара любога хлапчука!

І зубы чысціць не трэба. Тым больш, у школу штодзённа хадзіць…

Дзімка яшчэ раз абвёў поглядам пакой.

Плюшавы мядзведзь не здаваўся такім ужо і жудасным. Хутчэй, страшнаватым, накшталт іх дворніка Фёдара, але такім жа добрым.

У куточку стаяў маленечкі тэлевізар нейкай дзівоснай канструкцыі, нібыта яго сабралі з самых розных дэталяў. Да таго ж, ён быў яшчэ і чорна-белы… Па тэлевізары ішлі «Канікулы ў Прастаквашыне». Кепска ішлі, з дрыжаннем і нейкімі хвалямі. А гуку зусім не было…

Але на тэлевізар тут, здаецца, нават не звярталі ўвагі. Джэні сама сябе падвесіла на кручок ля выхаду, нібыта паліто, і толькі зрэдку варушылася і нешта мармытала. А ля сцен ляжалі кнігі: горы кніг. Яны былі складзены стосамі; некаторыя з іх небяспечна хісталіся. І тым не менш на некаторых з гэтых стосаў стаялі кубкі, сподкі, цукерніцы.

Дзімка пацягнуўся і ўзяў верхнюю кнігу з рукатворнай піраміды.

— Дзюма, — сказаў ён. — «Тры мушкецёры».

— Чытаю, — прызналася Аліна.

— Мяне б сілком ніхто не прымусіў, — сказаў Дзімка.

Аліна адвярнулася і нейкі час глядзела на свой дапатопны тэлевізар.

— Ты ў школу ходзіш? — раптам спыталася яна, і вусны яе нечакана задрыжалі.

— А ты сапраўды не хочаш вярнуцца? — пытаннем на пытанне адказаў Дзімка.

— Сапраўды не хачу, — з выклікам адазвалася Аліна. — Але не хвалюйся, цябе выведу. Толькі вось для пачатку цябе прыйдзецца ўмасліць.

— Умасліць?! — не зразумеў Дзімка. — Як гэта?

— Выпіць гарбаты з маслам, — патлумачыла Аліна. — Праходы не ўсюды шырокія, часам трэба быць такім слізкім, каб праслізнуць, што проста жах! Вось, пачакай.

Яна зняла з агню здаравенны алюмініевы чайнік і разліла кіпень па сподачках. Расчыніла невялікія дзверцы ў сцяне і выцягнула адтуль пакет падталага карамельна-жоўтага масла. Спрытна падчапіла нажом кавалачак, затым разбоўтала яго ў заваранай гарбаце.

— Пі! — строга загадала яна.

Дзіма уздыхнуў і выпіў.

*Заканчэнне гісторыі чытайце ў праекце «Бярозка плюс» на www.maladost.lim.by/berezka*

## Новы праект. Аповесць-канструктар

### *Інструкцыя*




Выразай па шэрым пункціры.




Складвай напалам па карычневым пункціры такім чынам, каб старонка 33 (37, 41, 45) апынулася зверху.




На апошнім этапе складзеныя напалам двойчы старонкі трэба склеіць па бэжавай лініі.

***Важна!*** Для склейвання старонак, каб яны не карабаціліся, выкарыстоўвай ***гумавы*** клей.

***Так, месяц за месяцам дадаючы новыя старонкі аповесці, ты можаш стварыць кнігу!***

***Хутка! Вокладка для кнігі!***

***Аўтар ілюстрацый да аповесці — Наталля Длатоўская.***

хлява. — Я яму малако цягаю, а ён яшчэ лаецца. Ды каб цябе Кадук праглынуў!

— Каб усе твае скарбы ў пыл рассыпаліся.

— Каб цябе Пярун спаліў!

Юрась фыркнуў і з папрокам нахіліў галаву. Дакладна, ён не баіцца… Гэты факт нагадаў Хуту, з кім ён сварыцца і прымусіў супакоіцца. Дарма ён згадаў пра Юрасёва дзяцінства. Нячысцік уладкаваўся побач з сябрам і з прымірэннем паглядзеў на яго:

— Ну, не крыўдуй, кацянё. Я ж за цябе хвалююся. Яна табе галаву скруціць, калі з яе дзяўчатамі што благое здарыцца.

— Ведаю я, ведаю, — Юрась звыклым рухам заправіў за вуха цёмную пасму. — Яна мне гэта сёння асабіста растлумачыла. З падрабязнасцямі.

— Дык вы бачыліся? І як яна? Усё такая ж прыгажуня?

— Лепш.

— І такая ж вар'ятка?

— Горш, — шматзначна хмыкнуў юнак. — Мне часам шкада старога.

— І мне. Аднак мы абралі свой бок.

— Я не абіраў.

— О, яшчэ як. У цябе былі магчымасці пазбавіцца гэтага.

— Мг, разам з жыццём.

— Тым не менш гэта твой выбар.

36

— Вечар добры табе, — прыемным глыбокім голасам павітаўся мужчына.

— Добры вам вечар, Гаспадар Лесу, — згадваючы аповеды Юрася, адказала малая.

— Дзякуй, што паспрабавала выратаваць маё дзіцё, — на яе глядзелі глыбока-зялёныя, як гушчар лесу, вочы.

— Дзякуй, што вы здолелі гэта зрабіць. Я так шмат чула пра вас!

— Ды і мне ўжо пра цябе распавядалі. Дарэчы, дзе гэты пархацік? Чаму ты адна ў лесе?

— Ён пакінуў мяне ў падлеску, на сунічнай палянцы. А я пачула птушаня і сышла…

— Зразумела. Ну, давай, правяду цябе назад, — стары працягнуў малой шурпатую, нібы кара дрэва, руку.

Яны ўжо набліжаліся да сунічнае паляны, калі Агнія пачула, што Юрась спалохана ды разгублена гукае яе. Ён кідаўся з боку ў бок, нервова круціў галавою, зазіраў за кожнае дрэва, пад кожны куст. Гаспадар Лесу шматзначна хмыкнуў у вусы. Даўгая, гнуткая галіна арабіны нібы незнарок сцебанула юнака па руцэ, пакідаючы чырвоны прыпухлы след.

— Ай. За што, дзядзька Лясун? Я не проста крычу, я малую шукаю.

— Вось менавіта за гэта, — выводзячы дзяўчо з малінавых гушчароў, выхаваўча заўважыў стары. — Ты за гэты скарб галавой адказваеш. Вось

33

галавой і думай наступны раз, калі будзеш яе адну ў лесе пакідаць.

— Я прасіў яе нікуды не сыходзіць, — пакрыўджана заўважыў юнак, паціраючы руку.

Агніі было шкада Юрася, бо гэта яна насамрэч вінаватая, але яна так баялася злосці Гаспадара Лесу, што не магла вымавіць ні слова.

— Гэта ты тут дарослы мужчына, а не яна. Ці ты не лічыш сябе дарослым? Дык я тады знайду час на тваё выхаванне. І сродкі таксама.

— Не трэба, — адыходзячы далей ад арабіны, вымавіў хлапец. — Больш такога не здарыцца.

— Там пабачым. Ідзіце ўжо адсюль, бо хутка сцямнее, павылазіць markzнае…

Агнія прыціснулася вуснамі да рукі, якая не толькі навобмацак, але і пахам сваім вельмі нагадвала сасновую кару.

— Дзякуй, Гаспадар Лесу! — прамармытала яна ды кінулася ў абдымкі да Юрася.

Яны моўчкі шпацыравалі па дарозе ад лесу да вёскі. Агнія адчувала, што хлапец усё яшчэ злуецца на яе. Яна ўжо тройчы прасіла прабачэння, а ён тройчы казаў, што прабачыў. Але ўсе роўна напружана ды пакрыўджана маўчаў. Яна не ведала, якія словы яшчэ сказаць, таму проста спынілася, сарвала каля дарогі трыпутнік, абсмактала яго і пяшчотна прыклала да параненай рукі юнака. Ён усміхнуўся і правёў далонню па яе растрапаных рудых кучаравінках.



— Прабач, я не павінен быў пакідаць цябе адну.

— Я не павінна была ісці ў лес, так што ты мяне прабач.

Яны зноў абняліся ды працягнулі шлях. Выдатна, так значна лепш. Цяпер засталося прыдумаць, як памірыцца з Алісай ды дзядулем, бо ўжо даволі позна і яны дакладна хвалююцца. Трыпутнік тут наўрад ці дапаможа.

***

Хут, падазрона аглядаючыся, прабег праз двор ды грукнуў аб лаву эмаліраваным кубкам з малаком. Сурова зірнуў спадылба, прабубніў:

— Ды што ўжо выхоўваць цябе, дурня такога?! Цяпер позна ўжо. А пакуль малы быў, відаць, ніхто табой не займаўся.

— Маё дзяцінства цябе не хвалюе, — хапаючы малако, адмахнуўся сябар.

— Яно і цябе, відаць, не вельмі кранае. Інакш бы думаў галавой. А на месцы Лесуна я б цябе не галінкай, а дрэўцам таўсцейшым ляснуў бы.

— Менавіта таму ён — Гаспадар Лесу, а ты — звычайная хатняя поскудзь, — раздражнёна заўважыў юнак.

— Не, ну вы яго бачылі? — Хут пакруціў галавой, звяртаючыся да Хатніка, чые цікаўныя вочы блішчэлі з-пад ганка, ды да Хлеўніка, чыю хударлявую постаць было відаць за прыадчыненымі дзвярамі

Міра пераапраналася да трэніроўкі. Па рашэнні Стэфана час ад часу яна не трэніравалася, а толькі назірала за тым, як ён выкладае. На яе погляд, мужчына паспяшаўся з прывілеямі. Ёй яшчэ вучыцца і вучыцца. Напрыклад, атрымлівалася, што Знешні сусвет, у якім яна пакуль не была, адрозніваўся ад Унутранага значна больш, чым уяўлялася. Цікава, чаму ім у Вучэльні ніхто пра гэта не распавёў? Ці гэта яна так слухала?

На вуліцы пачуўся рогат. Яна выглянула з акна, што якраз выходзіла на пляцоўку для трэніровак, і адчула, як бровы папаўзлі ўверх ад здзіўлення. Толькі што суровы і раздражнёны Стэфан разбіваў каменем «забаўную штуку» са Знешняга сусвету і рабіў Вучню сур’ёзныя заўвагі, а зараз ён ужо са штучным выразам пагрозы на твары гуляе з Усеваладам у даганялкі. Што з гэтымі хлапцамі не так? Вучань спыніўся пад яе акном, закінуў уверх галаву і з усмешкай заўважыў:

— Ён карае за спазненне на трэніроўку. Выходзьце хутчэй!

— Не бачу, каб яна пачалася, — здзекліва адказала Міра.

— А між іншым, гэта ўжо размінка, — жорстка збіваючы хлапца з ног, выкрыкнуў Стэфан.

— У Вучэльні размінкай называлася не гэта, — яна пахістала галавой і прыкрыла далонню вочы.

Гэта будзе самы вар’яцкі год у яе жыцці, бясспрэчна…



Юнак няёмка варухнуў плячыма, звёў бровы, цяжка ўздыхнуў, але хутка прымусіў сябе ўсміхнуцца:

— Ведаеш, ты надта разумны для хута.

— Гаспадаровы кніжкі чытаю.

— Навучыў на сваю галаву…

— Зараз пойдзеш адсюль, хвалько.

Юрась толькі зноў фыркнуў і прыняўся вылізваць кубак.

— Ну добра, што яна цяпер хоча?

— Яе.

— Табе давядзецца добра пастарацца, — пацокаў языком Хут.

— Ну, у мяне ж ёсць сябар, які заўсёды мне дапаможа, — юнак паклаў руку на саламяныя валасы нячысціка.

— А яшчэ ён заўсёды можа папрасіць у Хлеўніка пугу, калі ты пачнеш рабіць глупствы… Добра, Варгінаў унук, ідзі адпачываць, заўтра возьмемся за працу.

***

Міраслава прачнулася з-за шуму ў калідоры. Раніца пачалася са сваркі. Стэфан стаяў у праходзе ў пакой вучня, скрыжаваўшы рукі.

— Ды колькі ўжо можна? — стомлена і крыху злосна пацікавіўся ён.

Міра нахабна зірнула з-пад яго пляча. Усевалад сядзеў на ложку, падціснуўшы ногі, і трымаў у руках дзіўную прыладу. Невялічкая пласціна з металу

і шкла лёгка змяшчалася ў юнака ў адной руцэ. На металічнай паверхні была падобная да яблыка выява, а ў шкле з адваротнага боку адлюстроўваліся каляровыя малюнкі, і юнак ніяк не мог вызначыцца: глядзець на іх ці на пагрозлівага Настаўніка.

— Дзе ўзяў?

— Кіт падкінуў, — амаль шэптам вымавіў юнак. — Толькі не кажыце Марку, калі ласка.

— Канешне, ён жа Мікіту за такое ў пыл сатрэ, — мужчына выцягнуў рэч у хлапца з рук. — І правільна зробіць!

— Затое Марк бярэ Мікіту з сабой у Знешні сусвет.

— Затое ён яўна з гэтым паспяшаўся, — адрэзаў Стэфан, падкідаючы ў руках бліскучы прамавугольнік. — Я вам колькі разоў, неслухі, казаў: некаторым рэчам са Знешняга сусвету ў нашым не месца!

— Ну, забаўная ж штука!

— Гэтая «забаўная штука» ўсю тваю энергію так перакруціць, што ты не толькі карыстацца ёй не зможаш — жыць не захочаш. Тлумачыў жа: некаторыя з’явы і рэчы адтуль не павінны трапляць сюды, бо з’яўляюцца для нас выключна шкоднымі.

— Не адчуў ніякага шкоднага ўплыву ад яе, — юнак канчаткова надзьмуўся.

— Зараз ад мяне адчуеш! Сапраўды, варта ўзяць з Марка прыклад. Не, не ў тым, каб цягаць вучня ў Знешні сусвет. А ў тым, каб караць за такія вось паводзіны. Сур’ёзна, колькі можна, Усевалад?

38

Юнак закаціў вочы і адвярнуўся.

— Пяцьдзясят адцісканняў. Зараз жа.

— Вы не скажаце Марку?

— Ды я Кіту сам галаву адкручу. Адціскайся. І праз дзесяць хвілін каб быў на пляцоўцы, гатовы да трэніроўкі.

Здаецца, Усевалад не ўспрыняў гэта як пакаранне, бо з шырокай усмешкай пачаў адціскацца. Міра ж выйшла ўслед за Стэфанам на вуліцу, косячы вокам на цікавостку.

— Што гэта? — спытала яна,назіраючы за тым, як мужчына апускае бліскучую панэльку на брукаваную дарогу.

— Далькажык.

— Што?

— Мабільны тэлефон.

— Што-о-о?

— Вы, відавочна, вучыліся не ў настаўніка, а ў агульнай Вучэльні?

— Так, — разгублена адказала дзяўчына.

— Вам там увогуле распавядалі пра лад жыцця ў Знешнім сусвеце?

— М-м-м, магчыма я проста гэта праспала.

— Вы мала страцілі. Сродак сувязі гэта. Не важна, як ён працуе, бо… — Стэфан прыклаўся каменьчыкам рыхтык па шкляной паверхні, па якой імгненна разбегліся ў розныя бакі тысячы дробных трэшчынак. — Бо ён больш не працуе.

39

Стэфан усміхнуўся вучню, апусціўся на калені і прыціснуў далоні да зямлі, набіраючыся Энергіі.

— Я раблю Аснову, ты пляцеш Сімвалы, добра?

— Вы збіраецеся плесці Арнамент? — здзіўлена спытала Міра.

— Мг, — усё яшчэ размінаючы пальцы, кіўнуў галавой хлапец.

— Табе б таксама не зашкодзіла падсілкавацца, не? — яна паказала на Настаўніка.

Мужчына з цікаўнасцю паглядзеў на хлапца, чакаючы, якім будзе ягоны адказ.

— Для Асновы патрэбна энергія зямлі, для Сімвалаў — энергія полымя. Я толькі што трымаў у руках метал, выкаваны ў вогнішчы. Так што хопіць з мяне, — на канцах яго пальцаў іскрынкі пачалі збірацца і сплятацца між сабой у тонкія ніці, Стэфан задаволена хмыкнуў.

— Слухайце, можа вам патрэбна мая дапамога? У Вучэльні казалі, што Арнаменты плятуцца гуртам, не менш за трох чалавек. Гэта ж так складана, — яна паспрабавала ўспомніць усё, што ведала, хоць веды, на жаль, былі толькі тэарэтычныя.

— Гэта Ваяры плятуць утрох, а Майстры і ўдвух справяцца, — фанабэрыста адказаў хлапец, уладкоўваючыся побач з Настаўнікам.

Той узнагародзіў яго позіркам з папрокам, пакруціў галавой і пачаў працаваць. Пад яго рукамі ў паветры з'яўлялася тонкая стужка, якую ён паступова

44

Трэніроўка істотна адрознівалася ад размінкі. Раптам наступіла абсалютная цішыня. Вучань і Настаўнік стаялі адзін насупраць аднаго, сціскаючы эфесы мячоў, крыху нервовыя і рэзкія, нібы сапраўды злосныя.

— Маўчы і слухай метал, — сурова вымавіў Стэфан і вокамгненна зрабіў першы выпад.

Міра ведала дастаткова рытуалаў і абрадаў, якія Ваяры выконвалі моўчкі, праз маўчанне звяртаючыся да іншасветнай моцы, але біцца ў цішыні іх ніколі не прымушалі. І яна не была нават упэўненая, што гэта магчыма. Падчас хуткага руху нярэдка збівалася дыханне, не так ужо проста было трываць боль ад удараў, і самае істотнае: трэба было стасавацца з «сапернікам». Хоць Міра ўжо ўпэўнілася, што ў Стэфана выключна асаблівыя погляды на зносіны са сваім Вучнем. І яго падыход, відавочна, быў правільны, бо яны выдатна ўзаемадзейнічалі і разумелі адзін аднаго ўвогуле без гукаў. Кароткія позіркі, ледзь заўважныя выразы твару, імгненныя рухі рук — гэтага ім было дастаткова. Часам, калі хлапец дапускаў памылкі, Стэфан ужо зусім відавочна незадаволена круціў галавой.

Калісьці і ў Міры быў чалавек, з якім не трэба было ні слоў, ні гукаў. Уяўленне намалявала круглатварую ўсмешлівую прыгажуню з залатой касой цераз плячо. Васіліса, якую і яна, і сябры-хлапцы ласкава клікалі «Васёк».

41

Колькі начэй яны правялі разам за размовамі пра прыгоды Васі. Міраслава заплятала яе неверагоднай прыгажосці валасы, слухаючы пра чарговага «кадука», як яна жартаўліва называла сваіх шматлікіх прыхільнікаў.

Міраславе зараз не пашкодзіла б начная размова з сяброўкай, але тая не пайшла «ў Майстры», задаволілася ступенню Ваяра і адправілася ў Знешні сусвет выконваць свае непасрэдныя абавязкі. Шкада, бо ўпершыню ў жыцці яна б распавядала Васі пра хлапцоў, а не наадварот. Распавядала б пра тое, якім розным бывае Стэфан, заўсёды пры гэтым застаючыся ўважлівым ды справядлівым. Распавядала б пра тое, якія моцныя ў яго рукі, якая шырокая і дужая спіна, якое цвёрдае падбароддзе і загадкавыя шэрыя вочы. Здаецца, яна распавяла б Васі, што яна закахалася...

Міра, здзіўленая і спалоханая ўласным адкрыццём, узняла на Стэфана вочы, якімі дагэтуль свідравала зямлю, і здзівілася яшчэ больш. Настаўнік прыціскаў Вучня да зямлі каленямі і адной рукой, у другой трымаючы кароткі кінжал літаральна за сантыметр ад твару юнака. Усевалад закусіў вусны ад болю і беспаспяхова намагаўся ўзняцца.

— У чым памылка? Дзе памыліўся, Вал? — цяжка дыхаючы, спытаў Стэфан.

— Праваронію абарону, — ледзь чутна адказаў хлопчык.



Настаўнік адразу ж прыўзняўся, вызваляючы Вучня. Юнак, наскрозь мокры і закатаваны, расцягнуўся на траве недалёка ад Міры. Стэфан сышоў кудысьці са зброяй.

— Гэта было жорстка, — шэптам заўважыла Міра. — Асабліва напрыканцы.

— Нармальна. Сам вінаваты, — слаба адказаў хлапец.

— Але гэта не была трэніроўка, Вал. Гэта была сапраўдная бойка.

— Па-першае, я Усевалад. Па-другое, Стэфан ніколі не патрабуе ад мяне больш, чым я магу.

Хлапец сеў, прыхіліўшыся да сцяны хаты, і пачаў павольна і акуратна размінаць рукі. Па яго пальцах забегалі блакітныя іскрынкі.

— Па-першае, Стэфан назваў цябе Валам. Па-другое, пагражаць вучню зброяй — гэта вар'яцтва, — перакрыўляючы юнакову манеру размаўляць, адказала Міра.

— Стэфану можна. І першае, і другое. Аў! — іскрынка раптам выбухнула аранжавым на кончыку аднаго з пальцаў, і хлапец хутка засунуў яго у рот.

— Няма чаго балбатаць, калі размінаешся, — пабач раптам з'явіўся Настаўнік. — Ну што, пакажам Міраславе цуд?

— Які менавіта?

— Поспех.

— Згода.

***

Аліса выйшла на ганак і пацягнулася. У двары лунаў своеасаблівы пах ранішняй вёскі. Зараз гэта асабліва добра спалучалася са снамі, што яна бачыла ноччу. Яна не магла ўспомніць іх змест, але памятала, што мроіла дзяцінства.

— Прывітанне, малеча, — дзядуля схіліўся над бочкай вады, умываючы твар. — Нешта ты рана. А дзе другая, спіць яшчэ?

— Канешне. Учора ж бадзялася недзе амаль да ночы.

— А зараз мроіць, напэўна, якія-небудзь казкі. Табе яшчэ мрояцца казкі, Ліска?

— Толькі ў снах яны і засталіся. Чаму ў дзяцінстве так верыцца ў цуды, дзядуля?

— А цяпер што?

— Цяпер гэта прывілей Агніі. І яна цудоўна спраўляецца, спрабуючы ўпэўніць усіх навакольных у існаванні розных хатнікаў, хлеўнікаў і гэтак далей. Лепш бы якімі феечкамі захаплялася…

— Дык, можа, яны сапраўды існуюць? — хітравата ўсміхнуўшыся, пацікавіўся дзядуля.

— Калі б яны існавалі, я б таксама іх бачыла.

Учора сёстры зноў моцна пасварыліся, бо Агнія вельмі позна прыйшла дадому, бадзялася невядома дзе, пакуль Аліса абшукала ўсю вёску, а потым апраўдвалася тым, што пасябравала з «дзядзькам Лесавіком». Адкуль усе гэтыя істоты ўзяліся ў яе галаве? Кніжак ёй такіх ніхто не чытаў, мульцікаў падобных наогул няма.

48

зводзіў у кола, Вучань жа нібы завязваў на ёй камбінацыі сімвалаў. Пераплятаючыся між сабой у пэўнай паслядоўнасці, у паветры ўзнікалі сімвалы багацця, дабрабыту, росквіту, сонца. Яна ніколі раней не бачыла такога ў жывую, але гэта вельмі нагадвала ёй пляценне бранзалетаў з нітак, якім калісьці захаплялася Вася.

Стэфан зноў адрозніваўся ад сябе папярэдняга.

— Дапрацуй, калі ласка, папярэдні сімвал, Свавольнік, — ціха і мякка, не адрываючыся ад працы, папрасіў ён.

— Прашу прабачэння, — шчыра і гэтак жа ціха вымавіў хлапец, выпраўляючы сваю памылку.

Зараз яны працавалі не як Настаўнік і Вучань, а як сапраўдная каманда, як роўныя па моцы паплечнікі, і гэта выглядала для яе вельмі дзіўна. Яна зусім заблыталася і абсалютна не разумела, як Стэфан насамрэч ставіцца да хлапца. І тым больш не разумела, як Усевалад ставіцца да настаўніка. Мужчына пра нешта ціха пажартаваў, і плечы юнака затрэсліся ад стрыманага смеху.

— Не рагачы, — з усмешкай заўважыў Стэфан. — Будуць рукі трэсціся, памылішся ў сімвалах.

— Вы тады не жартуйце.

— Я Стэфан, мне можна. Ты сам так казаў.

— Так заўсёды, — даплятаючы апошнія Сімвалы і завяршаючы кола, прамармытаў юнак.

Арнамент засвяціўся чырвоным, запульсаваў, нібы намагаючыся стаць шырэй і захапіць усё ды

45

ўсіх навокал. Усевалад зрабіў ёй рух рукой, запрашаючы падысці. Мужчына ўважліва зірнуў на вучня, шматзначна хмыкнуў і ўзяў Міраславу за руку. Прыўзняўшы за сцёгны ў паветра, акуратна паставіў у цэнтр Арнамента. Той закруціўся, звужаючыся вакол яе, і раптам цёплым поясам абвіўся вакол таліі. Па целе разлілося дзіўнае пачуццё задаволенасці ды ўпэўненасці.

— Ух ты, — выгукнула яна. — А цяпер што?

— А цяпер: колькі разоў з дзесяці вы звычайна трапляеце ў сярэдзіну мішэні, страляючы з арбалета?

— М-м-м, ну, напэўна, шэсць-сем.

У руках яе імгненна апынуўся цяжкі, груваcткі, зусім непадыходзячы арбалет.

— З такога я і трох разоў не траплю, — фыркнула Міра.

Усевалад, трымаючы яе за плечы, падвёў да мішэні, замацаванай на слупе, ужо вельмі-вельмі дзіравай. Дзяўчына стала, каб было зручней, прыцэлілася і... Дзесяць разоў запар трапіла ў самы цэнтр маленечкага чырвонага колца.

— І доўга гэта дзейнічае? — у захапленні пацікавілася яна.

— Прыкладна дзень, — задаволена адказаў Усевалад.

— Хопіць фанабэрыцца ўжо, — сур'ёзна абарваў яго Настаўнік. — Твая чарга ўзяць у рукі арбалет. І я табе настойліва раю паўтарыць поспех Міраславы,



нягледзячы на тое, што табе не дапамагае Арнамент. Працуй.

Яны з Мірай тым часам зноў уладкаваліся ў цені. Мужчына, не адрываючыся, сачыў за вучнем. Часам, калі Усевалад рабіў нешта недастаткова якасна, перасмыкаў вуснамі, нібы хацеў зрабіць заўвагу, але стрымліваўся.

— Я не магу зразумець вашых адносін да яго, — спадзяваючыся на дапамогу Арнамента Поспеху, заўважыла Міра. — Вы і жорсткі, і лагодны, і вясёлы... І ўсё гэта за адну гадзіну.

— Жорсткі, калі хачу, каб ён быў жорсткім. Лагодны, калі патрабую ад яго спакою, — разважліва адказаў Стэфан, які яўна не бачыў у гэтым нічога дзіўнага.

— А насамрэч? Як вы ставіцеся да яго насамрэч?

Мужчына нахмурыўся, на твары адлюстраваўся сумнеў. Нібы ён ведаў адказ, але сумняваўся ці варта ёй давяраць. Нарэшце ён проста закасаў рукавы і паказаў ёй татуіроўку, такую ж самую, як ва Усевалада, толькі на правай руцэ. Паглядзеў на Міру, падціснуў вусны.

— Калі яму страшна, калі яму балюча, калі ён па сваёй уласнай дурасці апёк палец, калі яму пагражае нешта сур'ёзнае, а ён яшчэ нават не ведае — я ўсё гэта адчуваю. Больш моцна і больш балюча, чым ён сам. Я не ведаю, як я да яго стаўлюся. Як увасобіць гэта ў адным слове?

Міра тым больш не ведала. Затое яна ведала, што ні адзін з арбалетных балтоў юнака не адхіліўся ад цэнтра ні на міліметр.

# Нью-ёркская гісторыя




Гэтая гульня-фільм, адзіная ў сваім родзе, з'явілася на свет у 2005-м дзякуючы французскай студыі Quantic Dream. І стала лепшай у рэйтынгу Іграманіі.

З самага пачатку — з галавой у зіму. На календары 2009 год, адзнака на тэрмометры дасягае 14 °F (гэта –10 па звыклым нам Цэльсіі) і падае на працягу ўсёй гульні. Глабальнае абледзяненне. У «забягалаўцы» хлопец Лукас Кейн у змененым стане свядомасці забівае незнаёмага мужчыну. У гэты момант ігрок і ўключаецца ў працэс.

Ачомаўшыся, хлопец не разумее, як гэта адбылося, і вырашае бегчы, схаваўшы сляды злачынства. Далей у цябе ёсць варыянты: паабедаць (ты ж у закусачнай), заплаціць і сысці або збегчы, не заплаціўшы. Такія дылемы суправаджаюць на працягу ўсёй гульні, хоць на яе зыход не вельмі ўплываюць. На наступную раніцу Лукас Кейн вырашае даведацца, што з ім стала.

Расследаванне вядуць таксама два паліцэйскія — Карла Валенці і Тайлер Майлз. Сюжэт гульні пабудаваны так, што неўзабаве шляхі герояў пераплятаюцца. А чым гэта скончыцца, вырашыць іграку. Раблю падказку: фінал пачынае залежаць ад тваіх дзеянняў недзе з сярэдзіны гульні.

Колькі слоў пра герояў: два галоўныя і каля дзясятка другарадных. Лукас Кейн — сістэмны адміністратар у банку, 31 год. Пасля забойства ў яго з'яўляюцца звышздольнасці. На працягу гульні ты даведаешся, што на яго паўплывала. Гэты герой (і ты ў яго асобе) ратуе не адно жыццё (калі захочацца, канечне).

Карла Валенці — дэтэктыў паліцыі Нью-Ёрка, 28 гадоў, 8-е месца ў рэйтынгу самых прывабных жаночых персанажаў па версіі Playground.ru і 27-е месца ў спісе найзначнейшых жаночых персанажаў у гісторыі відэагульняў. Любіць працу і ставіцца да яе вельмі адказна. Пакутуе ад клаўстрафобіі.

Што да кіравання, дык ты не раз будзеш лаяць распрацоўшчыкаў, таму што не паспееш націснуць на кнопку — і герой страціць жыццё. Аднак гэта можна паправіць — вяртаннем у пачатак эпізоду.

Падчас дыялогаў сачы за тым, што адказваеш. Фразы трэба выбіраць мышкай, прамалёўваючы дзіўныя лініі, але гэта не напружвае, паколькі часу на адказ хапае.

Калі казаць пра гемплэй у цэлым, варта адзначыць, што сюжэт будзе перарывацца міні-гульнямі. Яны разбаўляюць працэс. Па меры праходжання будуць трапляцца бонусныя карткі. Пасля заканчэння імі можна скарыстацца і адкрыць некалькі відэаролікаў, арты і міні-гульні.

Разынка ў кексы гульні — аўтаматычнае захаванне на чэкпойнтах і адзіны сапраўдны «сэйв».

Такім чынам, плюсоў крыху больш, чым мінусаў. Хоць недахопы і прыкметныя, але гульня даволі прыемная і многімі любімая. Бясспрэчна, магла быць і лепш. Але гадзін, выдаткаваных на праходжанне, не шкада.

***Вераніка Гамзюкова***

# Бярозка

станоўчыя эмоцыі



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»



Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас:
220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку 17.03.2016 г.
Фармат 60х84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,54.
Тыраж 1011 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск



**18** Школа журналістыкі. Усё будзе добра
**20** Школа журналістыкі. Хто не быў у санаторыі, таму не зразумець…
**21** Школа журналістыкі. Скрапбукінг як лад жыцця
**23** Школа журналістыкі. Сучаснасць нашымі вачыма
**24** Школа журналістыкі. Матывацыя ад «Крумкачоў»
**37** Верасок-проза
**43** Верасок-паэзія

**45** Літаратурныя старонкі. Паэзія. Навум Гальпяровіч. Я рваў паперу і шаптаў у сне
**46** Літаратурныя старонкі. Паэзія. Рыма Ханінава. Певень і паўлін
**47** Літаратурныя старонкі. Проза. Саша Тэмлейн. Па Той Бок Шафы

**55** Аповесць-канструктар. Аліна Длатоўская. Арнаменты

**07** Перапынак. Квартэт выконвае арыю «Бліны»
**08** Сітуацыя плюс. Карыда
**12** Перапынак. «Снежны ком»
**26** Бел. літ. Загадка «Новай зямлі»
**28** Практыкум. Абмяркуем прастору
**42** Перапынак. «Скнара»

**01** Калі сур'ёзна. Глядзім кіно, чытаем літаратуру, адказваем на ўроку на «дзясятку»
**02** Па-даросламу. Праца ў мары
**11** Па палічках. Лепшыя спосабы запамінання дат

**03** Адзін дзень. Рэстарацыя пачынаецца з афіцыянта
**05** Псі-факторыя. Вызвалі свой час!

**13** 13-я. Перадай іншаму!
**14** Я сардэчка Беларусь. Цудоўныя Нязбодзічы
**15** Я сардэчка Беларусь. Куточак майго дзяцінства

**63** Level 80. Нью-ёркская гісторыя

**29** Я — Мастак

Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі — малюнак Алесі Галоты.*

# Перапынак

**Па гарызанталі:**

**5.** І … вышэй сонца не лятае (прык.). **6.** Вянок з лісця паўднёвага дрэва як сімвал перамогі, узнагароды. **7.** …! Выкрык з пераможнай інтанацыяй. **8.** … салдаты — не войска, … дубы — не дуброва (прык.). **10.** Верхні слой бярозавай кары; у старадаўнія часы … выкарыстоўвалася як першы пісьмовы матэрыял. **14.** … або масліна; плод вечназялёнага дрэва. **15.** «Мы прынеслі … і лотак,\\каб малады твой выпіць сок». З верша М. Танка «Бярозе». **16.** Шматгадовая вечназялёная расліна з белымі ягадамі, якая паразітуе на бярозе. **17.** Дзень сёмушнага (троіцкага) тыдня, калі дзяўчаты «завівалі бярозкі», а з верхавін бярозак рабілі аркі. **18.** Свойская жывёліна, якой на рогі надзявалі бярозавыя вянкі, каб перасцерагчы яе ад ваўкоў. **23.** «І раптам, пабліз акіяна,\\Бярозак стрэлася …», З верша П. Броўкі «Бярозавы гай». **25.** Памятны падарунак. **27.** Калі бяроза пачне распускацца — сей … (прыкм.). **29.** Лясная … ; кветка — першацвет, якая, як і пралеска, першай з'яўляецца на праталінах. **30.** «Мой Мінск, беражы гэты гай,\\Няхай зелянее і рдзее.\\О, родны бярозавы …». З верша П. Панчанкі «Удовін гай». **31.** Чорны грыб у выглядзе нарасці на ствале бярозы, настой якога танізуючы і абязбольваючы сродак.



**Па вертыкалі:** **1.** Птушка, якая належыць да добрых, «божых» птушак; першы спеў …, што прыляцелі з выраю, быў сігналам да пачатку веснавых работ. **2.** «У вяснушках вясна\\... бярозавы п'е». З верша Я. Пушчы «Вясна». **3.** Задыякальны знак, да якога належыць бяроза. **4.** Перыяд, калі пачынае ламацца лёд на рэках. **9.** Скандынаўская краіна, у якой з 22 красавіка да 1 мая святкуюцца «дні бярозы». **11.** «Цешыцца … з калінаю,\\Скінуўшы зімнія чары». З верша Я. Купалы «… і каліна». **12.** Звяно гусеніцы. **13.** «Ручай булькоча весела,\\... косы звесіла,\\А вецер грэбнем чэша іх —\\Вярнулася вясна!» З верша К. Самусенка «Вясна». **19.** Доўгі вусік на каласах жыта, пшаніцы. **20.** Мінерал, адна з разнавіднасцяў крэменязёму. **21.** У старажытнарымскай міфалогіі — апякунка шлюбу і нараджэння. **22.** Прыгожая асенняя кветка. **24.** «Наша … — бярозавік вешні,\\Аксаміт жаўруковае песні». З верша Я. Золака «Наша мова». **25.** «Сакавік, сакавік —\\... вывозіць грузавік.\\Прамакаюць боцікі,\\Расцвітаюць коцікі». З верша С. Грахоўскага «Сакавік». **26.** Войска (уст.). **28.** … з гор — і рыба з нор (прык.).

***Лявон Целеш, Дзяржынск***

Адказы:
**Па гарызанталі:** 5. Арол. 6. Лаўр. 7. Ага! 8. Два. 10. Бяроста. 14. Аліва. 15. Вядро. 16. Амяла. 17. Чацвер. 18. Карова. 23. Сям'я. 25. Сувенір. 27. Авёс. 29. Ветраніца. 30. Край. 31. Чага.
**Па вертыкалі:** 1. Жаўранак. 2. Сок. 3. Рак. 4. Крыгалом. 9. Швецыя. 11. Явар. 12. Трак. 13. Бяроза. 19. Асцюк. 20. Кварц. 21. Юнона. 22. Астра. 24. Мова. 25. Снег. 26. Раць. 28. Вада.

# Каляндар Бярозка

Красавік

Даты і падзеі

Што ўспомніць, чым заняцца, што прачытаць

1

«Блін!» — прамовіў слон, наступіўшы на Калабка. З Днём гумару! А ведаеш, чаму ў гэты дзень трэба хлусіць і падманваць? Таму што Дамавік у гэты дзень ад зімовага сну прачынаецца, і трэба яго заблытаць.



7

На Дабравешчанне птушка гнязда не ўе, дзеўка касы не пляце. А што рабіць? Спячы, дружа, птушачак, каб вясну заклікаць. Вазьмі гатовае дражджавое цеста, раздзялі на кавалачкі, раскатай кожны ў каўбаску і завяжы вузельчыкам. Адзін канецператвары ў галоўку з дзюбкай, другі — у хвосцік-веерчык. Вочкам няхай будзе разынчка.



17

Апошні дзень, калі можна, наведаўшы Нацыянальны мастацкі музей, трапіць на выставу, дзе прадстаўлена 40 работ мастака Льва Бакста, які нарадзіўся ў Гродне 150 гадоў таму і, праславіўшыся на ўвесь свет, памёр у Парыжы. Другое яго імя — Хаім Розенберг. Хочаш ведаць пра мастака больш? Сёлета да яго юбілею выпушчана адразу некалькі кніг з біяграфіямі.



18

Міжнародны Дзень аховы помнікаў і гістарычных мясцін, які адзначаецца па ініцыятыве ЮНЕСКА. У выхадныя напярэдадні наведай які-небудзь цікавы аб'ект. А калі пазнаеш будынак на фота — пішы або тэлефануй у «Бярозку»: атрымаеш прыз!



23

130 гадоў таму нарадзіўся Самуіл Яфімавіч Плаўнік, ён жа Змітрок Бядуля. Чытай інтэрв'ю з яго сынам у № 4 літаратурна-мастацкага часопіса «Маладосць».






ISSN 0320-7579

9 770320 757007 16003




24

Святы Анціп — ахоўнік зубоў. Гэты дзень — яго свята. Мо варта наведаць стаматолага?

